PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 29 (2149) Год XLII Беласток 20 ліпеня 1997 г. Цана 1 зл.



## КУПАЛЛЕ '97

*Фотарэпартаж Сяргея ГРЫНЯВІЦКАГА глядзіце на стар. 8*

## У нумары

# Мы прачыталі

*Ogólne poczucie gorzkiej bezsiły i bezradności zapanowało po kolejnym zabójstwie niewinnego młodego człowieka. W całej Polsce ludzie protestują przeciwko bestialstwu przestępców, kończącym się śmiercią młodych ludzi. Nie jest niestety tak, żeby bandziory wyrzynały się nawzajem. Ofiarami rozzuchwalonych bezkarnością bandytów padają wartościowi ludzie, uczniowie, studenci. Ludzie, których życie zostało przerwane przez bandziorów, zanim zaczęło się na dobre. Przeraża śmierć zaplanowana jako zabawa, która ma dostarczyć potworom mocnych wrażeń.*

*Potrzebne są działania, by powstrzymać tę falę zbrodni i okrucieństwa. Działanie to oznacza niezwłoczne przywrócenie orzekania i wykonywania kary śmierci. Jest to kara okrutna i niehumanitarna, ale wiele rzeczy w świecie nas otaczającym jest takich. Występuje duża doza hipokryzji w wygodym szufladkowaniu świata i zjawisk w nim zachodzących. Armie całego świata wyposażane są w coraz doskonalszą broń po to, żeby zabijać skuteczniej, szybciej i taniej. Siły zbrojne walczą o interesy polityczne i gospodarcze, czasem o ambicje wodzów. Można spalić przypadkowego człowieka napalmem czy rozsmarować go na ścianie własnego mieszkania wybuchem inteligentnej rakiety. Nie można powiesić czy rozstrzelać zbrodniarza mordującego na ulicy niewinnych ludzi. Czy ktoś mógłby wyjaśnić dlaczego?*

*Kurier Poranny, nr 147*

* * *

*Mam pytanie, czy nastolatek, który napadł na kantor, został schwytany przez policję i po przesłuchaniu zwolniony, został do domu odwieziony, czy musiał fatygować się piechotą? Czy został przeproszony za zatrzymanie? Należało także przeprosić jego rodziców, że dziecko zostało narażone na takie nieprzyjemności jak zatrzymanie przez policję.*

*Gazeta w Białymstoku, nr 151*

Пытанне вельмі слушнае.

* * *

*Nasz poseł nie powinien być przedstawicielem tylko lewicy czy prawicy, nawet nie tylko Białorusinów czy Łemków (...). Powinniśmy zdecydowanie poprzeć Stowarzyszenie Słowiańskiej Mniejszości Narodowej.*

*Przegląd Prawosławny, nr 7*

Вітаем новую нацыянальнасць на „ўсходняй сцяне”. Толькі ў апошніх гадах беларускае асяроддзе спарадзіла рускіх, украінцаў, лемкаў, праваслаўных палякаў, а цяпер з'явіліся яшчэ браты славяне. Не верым у тое, што гэта апошняя „наша” нацыя.

* * *

*Ponad połowa dorosłych mieszkańców dziesięciomilionowej Białorusi jest nosicielami prątków gruźlicy — alarmuje oficjalna „Sowietskaja Biełaruś”. Najgorzej jest w obwodzie homelskim, najbardziej dotkniętym skutkami katastrofy w Czarnobylu. Prasa prezydenta Łukaszenki jako główną przyczynę epidemii określa nielegalnych migrantów z Dalekiego Wschodu, którzy przez Białoruś starają się dotrzeć na Zachód oraz mieszkańców Zakaukazia, którzy handlują w centrum Mińska. W rzeczywistości epidemia gruźlicy zawsze jest wynikiem ubóstwa społeczeństwa. Według ostatnich danych niemal 40 proc. mieszkańcow Białorusi żyje poniżej minimum socjalnego.*

*Gazeta Wyborcza, nr 147*

* * *

*Młodzież pije coraz więcej alkoholu. Po wódkę, wino i piwo sięga już prawie 75 proc. trzynastolatków. W czasie wakacji następuje gwałtowny wzrost spożycia trunków przez dzieci i młodzież. 40 proc. piło już do 10 roku życia.*

*Życie, nr 142*

Гаварылі, што людзі пілі толькі пры камуністах, ад роспачы. Аказваецца, некаторыя ссалі ўжо малако з алкаголем.

* * *

*Pijani nauczyciele z Ełku pobili swoich — również pijanych — uczniów.*

*Kurier Poranny, nr 147*

* * *

*Produkujemy w Polsce tak dużo alkoholu, że wypić go nie jesteśmy w stanie, choć pijemy niemało.*

*Polityka, nr 25*

Гэта найбольшая недарэчнасць, якую мы прачыталі. Хай нехта паспрабуе панізіць цану гарэлкі напалову, а гарантуем, што спажыванне гэтага знакамітага напітку павысіцца ўдвая. А люд будзе вясёлы і шчаслівы!

* * *

*Nasi wschodni sąsiedzi coraz częściej zapadają na choroby weneryczne. W Polsce pracują tysiące prostytutek z byłego bloku wschodniego, gdzie liczba chorych na syfilis i rzeżączkę wzrosła ostatnio ponad 40 razy. Fala chorób wenerycznych niebawem zaleje Polskę. We wschodniej Polsce prostytutki z Rosji i Bułgarii zatrudniane są głównie w domach publicznych. Rzadziej pracują przy drogach wylotowych. Jeżeli już jakaś dziewczyna stoi przy ulicy, to najczęściej Ukrainka. Bułgarki biorą najmniej, są jednak brzydkie i często brudne. Dziewczyny te mają czasem kilkunastu klientów dziennie i zdaniem lekarzy kontakt z nimi jest bardzo niebezpieczny.*

*Życie, nr 142*

На шчасце няма беларускамоўных „дам” пры дарогах і ў „агенцтвах”.

# З мінулага тыдня

**У VI Парламенцкай асамблеі АБСЕ**, якая адбылася ў Варшаве, удзельнічала больш за 300 дэпутатаў з 52 краін, а таксама дэлегацыі Савета Еўропы, Паўночнаатлантычнай асамблеі, Еўрапарламента і Міжпарламенцкай уніі. У выніку паўсталі тры рапарты наконт супольнай і паўсюднай бяспекі ў Еўропе, выканання эканамічных мэт АБСЕ і ролі сродкаў масавай інфармацыі. З беларускага боку прыняць удзел у пасяджэнні былі запрошаны дэпутаты распушчанага прэзідэнтам Вярхоўнага Савета XIII склікання.

**Пасол РП у Менску Эва Спыхальска** не прыняла ўдзелу ва ўрачыстасцях з нагоды Дня Рэспублікі, хаця была запрошана на святкаванні. Яе адпаведна абазначаная дыпламатычная машына не магла пад'ехаць бліза Тэатра оперы і балета, бо вуліцы былі перакрыты міліцыяй. Міліцыянер, які спыніў машыну здалёк ад галоўнага ўвахода ў будынак, загадаў спадарыні пасол дабірацца да тэатра пешшу. Аднак яна загаду не выканала і вярнулася ў пасольства.

**Беларуска-польскі круглы стол** адбудзецца ў Варшаве па ініцыятыве польскага боку. Мэтай чатырохдзённага пасяджэння будзе актывізацыя двухбаковых адносін. Падчас сустрэч будуць абмяркоўвацца пытанні палітычнага, гандлёва-эканамічнага, гуманітарнага і культурнага супрацоўніцтва. Дэлегацыі ўзначаляць намеснікі міністраў замежных спраў.

**У Торуні** гарадскія ўлады вырашылі знесці помнік савецкім салдатам. Бронзавыя табліцы былі перанесены на прыгарадскі могільнік, а абеліск — разбураны. Генеральны сакратар Рады аховы месц змаганняў і пакут **Анджэй Пшэвознік** сказаў: „Дрэнна сталася, што ўлады горада не пракансультавалі сваё рашэнне ні з расейскім ці беларускім пасольствам, ні з нашай установай. Такія кансультацыі давялі б да пагаднення аб пераносе помніка ў іншае месца. Расейскі бок заўсёды да такіх спраў ставіўся спакойна. Сам факт прыняцця рашэння аб зносе помніка не з'яўляецца парушэннем дамовы аб узаемашанаванні магіл і месц пакут, але спосаб, у які гэта было зроблена, не служыць добрым адносінам з нашымі суседзямі”.

**У Райску** адбылася ўрачыстасць пасвячэння могільнікавай царквы св. Параскевы. Літургію ўзначаліў мітрапаліт Варшаўскі і ўсяе Польшчы **Васілій**. Новая царква, паводле праекта беластоцкага архітэктара **Міхала Балаша**, стаіць у месцы храма, які згарэў падчас пацыфікацыі вёскі гітлераўцамі ў чэрвені 1942 г.

**Згуртаванне славянскай нацыянальнай меншасці — Праваслаўныя** прадставіла свой спісак кандыдатаў у парламент. Адкрываюць яго **Яўген Чыквін** — былы пасол, галоўны рэдактар штомесячніка „Przegląd Prawosławny” і **Антон Міpaновіч** — гісторык, навуковы супрацоўнік Філіяла Варшаўскага універсітэта ў Беластоку.

**VI Міжнародная веларгонка** на кубак Беластоцкага ваяводы і старшыні Гродзенскага гарвыканкама завяршылася абсалютнай перамогай прадстаўнікоў Беларусі. У катэгорыі малодшых юніёраў пераможца **Мікалай Каржанеўскі** („Дынама” Менск) дыстанцыю 225,4 км пераехаў за 5 гадзін 44 мінуты і 56 секунд. Два чарговыя месцы занялі **Дзмітрый Аўласенка** з Віцебска і **Уладзімір Аўтко** з Гродна. У катэгорыі юніёраў дыстанцыю 250 км найхутчэй пераадолеў **Сяргей Стэц** (час 5:58:59); за ім апынуліся **Аляксандр Кучынскі** і **Аляксандр Казлоў** — усе трое з менскага „Дынама”.



# Весткі з Беларусі

**Грандыёзныя святкаванні**

3 ліпеня ў Беларусі адзначаўся Дзень Рэспублікі. Напярэдадні прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка ўсклаў вянок да абеліска Перамогі ў Менску. Затым кіраўнік дзяржавы прыняў удзел ва ўрачыстым пасяджэнні ў Тэатры оперы і балета, дзе выступіў з дакладам. У дзень свята ў прысутнасці кіраўніка дзяржавы адбылася цырымонія ўстаноўкі сімвала прэзідэнцкай улады — штандарта — на будынку рэзідэнцыі прэзідэнта РБ. У сталіцы адбыліся таксама ваенны парад і шэсце спартсменаў ды моладзі. А на другі дзень адбылося свята „Люблю цябе, мой родны Менск”, прысвечанае 930-годдзю заснавання горада. У рамках юбілейных мерапрыемстваў адбылося тэатралізаванае шэсце ўсіх раёнаў сталіцы, пасля якога прайшлі шматлікія канцэрты на плошчах сталічнага горада. Адначасова са святкваннем юбілею сталіцы ў Менску прайшоў злёт дэлегатаў гарадоў-пабрацімаў краін СНД.

**Абурэнне МЗС**

Мінулы год паказаў, што Арганізацыя па бяспецы і супрацоўніцтве ў Еўропе выконвае свае задачы, — такі галоўны вывад зрабілі палітыкі кантынента, сабраныя на шостай штогадовай Парламенцкай асамблеі АБСЕ, якая праходзіла ў будынку польскага Сейма ў Варшаве. На сесію не была запрошана дэлегацыя Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь. У заяве, якую распаўсюдзіла Міністэрства замежных спраў РБ, гаворыцца, што беларускае знешнепалітычнае ведамства разглядае дзеянні кіраўніцтва Парламенцкай асамблеі АБСЕ як праяўленне непавагі да дзяржавы-члена арганізацыі і лічыць, што такая пазіцыя кіраўніцтва АБСЕ не спрыяе развіццю плённага дыялогу з Беларуссю.

**Пасланне НАТО**

Прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка накіраваў пасланне генеральнаму сакратару НАТО Хаўеру Салану. Кіраўнік беларускай дзяржавы, яшчэ раз пацвердзіўшы сваю адмоўную пазіцыю наконт пашырэння НАТО на ўсход, адзначыў неабходнасць сумесных намаганняў па прадухіленні негатыўных, на яго думку, вынікаў уступлення ў альянс новых членаў. У пасланні таксама паведамляецца, што А. Лукашэнка не прыме ўдзелу ў ліпеньскай сустрэчы ў Мадрыдзе. Прадстаўніком Беларусі на гэтай сустрэчы быў назначаны дзяржаўны сакратар Савета Бяспекі Віктар Шэйман.

**Перспектывы ўзаемаразумення**

Пасол Беларусі ў Літве Яўген Вайтовіч спадзяецца, што маючая адбыцца ў верасні ў Вільні сустрэча кіраўнікоў васьмі дзяржаў, у тым ліку і прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнкі, дапаможа палепшыць узаемаразуменне бакоў. За апошні час сувязі Беларусі з Літвой на вышэйшым узроўні крыху прытармазіліся, аднак пасол глыбокаўпэўнены, што будучыня двухбаковых сувязей мае перспектывы.

**Спектакль паводле Гілевіча**

„Не праклінай, што я кахаю” — менавіта так называецца новы спектакль паэтычнага тэатра аднаго акцёра „Зніч”. Яго прэм'ера адбылася ў пачатку ліпеня ў менскім кінатэатры „Змена”. Гэты спектакль паставіла рэжысёр і актрыса Галіна Дзягілева паводле твораў Ніла Гілевіча. Галоўную і адзіную ролю выканаў акцёр Мікалай Ляончык. Дарэчы, на прэм'еры быў і сам Ніл Гілевіч.

**У гонар Купалы**

Фестываль паэзіі і народнай творчасці „Калыска Купалы” адбыўся ў мемарыяльным комплексе-запаведніку Вязынка. Быў ён прысвечаны 115 гадавіне з дня нараджэння вялікага песняра. Свята складалася з двух частак — літаратурна-песеннай, у якой удзельнічалі паэты і песьменнікі, майстры самадзейнага і прафесійнага мастацтва, народныя ўмельцы Меншчыны, і абрадавай, у цэнтры якой была купальская ноч.

**Новыя карпусы**

Лідскае рамонтнае прадпрыемства, якое нядаўна было створанае на базе Лідскага лакаматыўнага дэпо для заводскага рамонту дызель-паяздоў, папоўнілася двума новымі вытворчымі карпусамі. У адным з іх будзе рамантавацца электраабсталяванне дызельных паяздоў, у другім — дапаможнае абсталяванне.

# Зайздрасць жывых

Заглянуў я нядаўна ў Бахуры. Вёска раскінулася нейкіх трыста метраў ад дарогі з Юшкавага Груда ў Шымкі. Вясковая вуліца адным канцом выходзіць проста на Семяноўскае вадасховішча. Затрымаўся я недзе пасярэдзіне вёскі, дзе каля ганачка, у невялікім агародчыку, корпаліся дзве старэйшыя жанчыны. Па гаворцы мігам пазналі, адкуль я родам. А калі яшчэ даведаліся, што я з „Нівы", вельмі ўцешыліся, што „свой". Справа тут у тым, што вёска неаднародная канфесійна, і з-за гэтага існуе тут пэўнае напружанне і насцярожанасць. І я вось аказаўся тым, перад кім можна скінуць з душы тое, чаго не скажаш аднавяскоўцам. А гаварыць было пра што, бо не цяперашнія адно клопаты пакінулі след на невясёлых тварах жанчын. Абедзве яны ўдовы, адной ужо каля дзевяноста гадоў.

— Цяжка было, — кажа яна, — немец спаліў будынкі, нават адзенне забралі, не пакінулі. Пасля вайны давялося будавацца. Пабудавалі хлеў, клуню, а на хату грошай ужо не хапіла. Паехала я ў Беласток, у банк, каб грошай узяць. Яны мне даюць, але з працэнтам. А я без працэнту хачу, бо я ж хату не прапіла, толькі немцы спалілі, а жыць няма дзе. Калі без працэнту, кажуць мне, дык трэба ісці ў партыю. Ну і пайшла я туды, дзе тая партыя сядзіць. Зайшла я туды, расказала пра сваю справу, і з тае партыі адсылаюць мяне да ваяводы. Пайшла я да таго ваяводы, расказала, ён зараз пазваніў у банк і кажа, каб я ішла — дадуць мне пазыку без працэнтаў. Заходжу ў банк, там мяне ўжо толькі пытаюць, колькі грошай трэба. Я кажу, што сорак тысяч. А яны мне каб я брала больш! Ну то пяцьдзесят тысяч узяла я. Спыталі мяне яшчэ, якую столь буду класці ў хаце. Цэментную, адказала я; так мне сказаў гаварыць той ваявода. Калі скажаш, гаварыў ён, што паложыш цэментную, тады табе даруюць пятнаццаць тысяч, а калі скажаш, што драўляную — тады прыйдзецца аддаць усе пазычаныя грошы. Але я не хачу цэментнай, кажу. Зробіш сабе драўляную, а ў банку гавары, што будзеш класці цэментную, намаўляе мяне ён. А калі праверадь, што будзе тады, пытаю. А ён толькі рукою на гэта махнуў! Ну і я так зрабіла, як ён казаў, і пятнаццаць тысяч дарам асталося. Во як калісь, пры партыі, было! А цяпер... Каб, крый Божа, якое няшчасце, хто памог бы? І ўсё да горшага ідзе. Старыя людзі гаварылі, што яшчэ да 2000 года жывыя будуць зайздросціць мёртвым.

У вёсцы трое дзяцей, якіх з шашы забірае ў шымкаўскую школу аўтобус; двое з іх прывяла з сабою недзе з-пад Гайнаўкі жанчына, якая прыйшла сюды замуж. Калісь была ў Бахурах чатырохкласная школа, пасля якой дзеці хадзілі або ў Шымкі, або ў Рыбакі; як каму выходзіла бліжэй. Быў і пункт скупкі малака, які ўжо ад дзесяці гадоў пустуе. Пустых хатаў няма, бо тыя, якія былі, выкупілі гараджане. У вёсцы восем старых кавалераў, траіх ужо памерлі, ад гарэлкі. І адна дзяўчына, але і тая працуе ўжо ў Беластоку.

* * *

Заглянуў я яшчэ на другі бок шашы — у Лявонавічы. Там, на лавачцы, што па зарастаючай травою вуліцы, сядзела некалькі жанчын; усе яны пенсіянеркі. Сын аднае з іх абрабляе вялікатаварную гаспадарку. Мае ўсе машыны, шыкарны дом, толькі не мае аднаго — жонкі. Ну і клопат мае са збытам сваёй прадукцыі — нічога не хочуць браць, хіба што нейкі *прывацяж* нешта возьме. Вось адна з жанчын аддала метр бульбы за „два піва" — пяць злотаў! Размова паволі з вясковых справаў пераходзіць у палітыку: то ж пры Герку было так добра, а цяпер такія клопаты, такая крыўда вёсцы. І ўсяму гэтаму злу віноўны ў першую чаргу Валэнса, а далей тыя, што за ім стаяць. Калі размова сходзіць на духавенства, жанчыны ад злосці не могуць усядзець, устаюць і разыходзяцца хто куды. Вазьмі і пагавары на вясковай вуліцы пра сітуацыю на вёсцы!

У вёсцы ўсяго каля шасцідзесяці душ, у большасці пенсіянеры; таксама шасцярых кавалераў. Трое дзяцей даязджаюць веласіпедамі ў школу ў Шымкі. Калісь бывала так, што з Лявонавіч па дзевяць дзяцей вучылася ў адным толькі класе! І на пападворках па некалькі людных хатаў стаяла, было іх калісь каля сямідзесяці; сёння стаіць яшчэ каля пяцідзесяці, а ў іх ліку дзесяць пустых, а ў дзесяці жыве па адной асобе.

**Аляксандр Вярбіцкі**

*Фота аўтара*



*Будынкі ў Лявонавічах крытыя саломай.*

# Асігнацыя

Ёзік з Федзікам, пасля ўсяночнай на мясцовым пастарунку за п'яную дыскусію ў рэстаране ў падбеластоцкім гарадку М. ішлі ў напрамку півной. Пасля пустыннай ночы сушыла іх, як у жніва. Ішлі, насунуўшы на лоб шапкі, каб пад казырком не было відаць — у Федзіка набраўшага фіялету вока, а ў Ёзіка — шышкі на лобе велічынёй добрага грэцкага арэха.

— Табе што? — хрыпеў Федзіку перагарам Ёзік. — Кавалер ты! А ў кавалерцы, брат, дзела простае. Не тое, што ў мяне. У мяне сям'я, а сям'я, брат, справа тонкая. Бачыш, ты і ўчора — у кашулі беленькай, касцюмчыку, гальштуку. Выстроены, як пацук на адкрыццё канала. А я, як абадранец. Ты нанач не вярнуўся і хоць бы дзічкі. У мяне інакш. Што жонцы, дзеткам сказаць калі спытаюць, дзе ты, татульку, цэлую ноч быў. Ды дзецям яно яшчэ сяк-так, але бабе? У нішто не паверыць, толькі „набабнік" і ўсё. А гуз адкуль — не інакш, як муж прылапанай жонкі падарыў. Нават каменданта пастурунка прывядзі на сведку, што, моў, пад ключом у арышце трымаў — не паверыць! Плюне каменданту ў вочы і скажа, што такі сам ён бабалаз, як і я. І зноў аж да наступнай выплаты ў другім пакоі спаць буду. Во, брат, доля — маеш жонку, а на справе ты — сексуальны сірата.

— Не перажывай, баба — рэч набытая. У агенцтва пазвонім. Думаеш, дзеўка не прыедзе? Каб я свайго меншага на капейкі меў размяніць — прыедзе! Якая захочаш прыедзе. Ты выбіраеш, як у краме тавар. І хай тады твая сабе думае. Дабравольна ложак пакінула, а гэта значыць, супольны сямейны нажыткак. Маёмасць, па-судоваму гаворачы. Значыць, падзяліла. Выбрала. Значыць, у тваім ложку можаш гасцяваць каго захочаш. Добра кажу? Ну, сам рассудзі...

І блазан Федзік зацягнуў сваю песню:
*Памаленьку, паціхоньку,*
*Гнаў Сэмэнко самагонку.*

Гэта якраз і пачула Дамініка, што з-за свайго характару Цікавай называлася, якая старым спосабам чарговы раз павісла на плоце, каб бачыць, што на вуліцы дзеецца.

— А адкуль так з самой раніцы, га? Чаго на паліцыю хадзілі, га? Клікалі мо, што?

— Не, дабравольна! З чыстай совесці гавару, — дабравольна, — трымаў фасон Федзік. — Па дазвол, значыць, хадзілі.

— А што за дазволы паліцыя выдае? — спытала Цікавая.

Федзік таямніча азірнуўся па баках, быццам бы хацеў пераканацца ці нікога блізка няма, падышоў да Дамінікі ды сцішка сказаў:

— Па асігнацыю на самагонку хадзілі.

Дамініка недаверліва перакасабочыла галаву:

— І што, даюць?

— Як мы бралі дык некалькі мелі. Толькі не гаварыце, што ад нас даведаліся. Прасілі не расказваць, — Федзік міргнуў Цікавай і пайшлі з Ёзікам сваёй дарогаю.

Дамініка крыху пастаяла над плотам, але ўжо не бачыла, што дзеецца на вуліцы. Пераважоўвала пачутае і планавала, як бы найразумней гэта грызнуць, каб з карысцю было.

— Дастаць, то я дастану, — разважала. — Калі што дык у Беласток паеду. Там жа траюраднай сястры ўнук у паліцыі працуе. Думаю, што так — маеш дазвол, дык легальна гоніш. А калі легальна — легальна прадаваць можна. Ну, бо што — сам жа не перап'еш! А п'яніцаў на мой век яшчэ хопіць. Не, на слова даваць не буду. З рукі да рукі. На старасць яшчэ паняю стану. Іду, — рашыла і рушыла ў хату.

Праз мінут дзесяць ішла вуліцай ў святочнай хустачцы ў напрамку камісарыята.

— Да каменданта! — сказала дзяжурнаму.

У малых гарадках, дзе ўсе адзін аднаго ведаюць, працэдур няма. Праўда, дзяжурны фармальна сказаў:

— Па якой справе?

Але Цікавая адрэзала:

— Важнай і важнаму чалавеку скажу!

Прапусцілі. І тут Дамініка замялася. У пакоі каменданта сядзеў яго намеснік. Вяртацца было няёмка.

— Ну, што цікавага, Цікавая? — жартоўна спытаў камендант, які быў у добрым настроі.

— Па асігнацыю прыйшла, — сказала яна, схіліўшыся яму над вухам, а сама глянула ў напрамку намесніка, ці той не чуе.

— Якую асігнацыю? — спытаў галасна камендант, адхіляючыся ўзад аж на апорку крэсла і дадаў намесніку: — Ты чуеш, Вацлаў? Якія гэта ты асігнацыі раздаеш?

Дамініка зразумела, што тайнічаць няма ніякага сэнсу. Нават разззлавалася, што прыкідваюцца і, відаць, хабар хочуць.

— На самагонку! — адказала. — Такі, як Федзіку з Ёзікам нядаўна далі!

Тыя пераглянуліся і мігам зразумелі ў чым справа.

— Ага! — трэба было гэтак адразу. — У іх справа іншая. Яны маюць апарат. Сапраўдны, правераны. Дапушчаны нормамі. Без гэтага не пройдзе. Апарат, знаеце, падстава. Каб вы мелі, дык не было б праблемы, — сказаў і пільна ўтаропіўся ў Дамініку.

Тая замялася, кінулася ў роздумы і раптам спахапілася быццам бы нешта ўспомніла:

— Ну то адзін на двух. Праўда, апаратуры я не маю, але ў кума Міцькі ёсць. Добры, з сухапарнікам. Зроблены так, што можна на агонь ставіць, а калі захочаш то і да току падключыш. Перад Вялікаднем самі ў яго бралі. Хітрая штука! У каморы трымае, каб вільгацю спіраль не зацягнула.

Паліцыянты пераглянуліся, хітра ўсміхнуліся:

— Мусіце прашэнне напісаць!

— Я? Калі мне па-польску гаварыць цяжка, а пісаць то ні бэ ні мэ. Напішыце тое што трэба, вам лепш знаць, а я падпішу.

Дамініка пасведчыла сваім крывым подпісам, што такі апарат у кума Міцькі ёсць, што дзейны ён і калі праверыць, напэўна нормам адпавядаць будзе.

Не паспела дайсці да свайго панадворка, калі абагнала яе паліцэйская машына.

— Напэўна нормы правяраць паехалі, — падумала Дамініка.

А калі машына вярталася, а ў ёй сядзеў Міцька, Цікавай ускалыхнула падазрэнне.

— Каб хаця мяне не абдулі і не выпісалі асігнацыю толькі на аднаго Міцьку, — спалохалася.

**Міхаль Пашкоўскі**

# Аднавілася Рада БНР

Па ініцыятыве вядомага беларускага дзеяча Барыса Рагулі з Канады аднавіла сваю дзейнасць Рада Беларускай Народнай Рэспублікі. У днях 5-6 ліпеня ў Вільні сабраліся прадстаўнікі беларускіх асяроддзяў з Амерыкі, Бельгіі, Чэхіі, Літвы, Эстоніі, Латвіі, Польшчы, Расіі і дэмакратычнай апазіцыі з Беларусі, каб абмеркаваць накірункі дзейнасці Рады ў сітуацыі, калі Бацькаўшчына пасля некалькіх гадоў незалежнасці гіне як палітычны фактар з карты Еўропы. Беларускі Мабуту — як называлі ўдзельнікі сустрэчы прэзідэнта Лукашэнку — дбае выключна пра свае інтарэсы і тых замежных сіл, з якіх дазволу правіць ён краінай.

Рада БНР у сапраўднасці выконвала функцыю парламента і яна менавіта 25 сакавіка 1918 года аб'явіла незалежнасць краіны. Падчас каланіяльнай польска-савецкай вайны за Беларусь і Украіну Рада і ўрад БНР апынуліся на эміграцыі ў Коўне. Пастановай Рыжскага дагавору Беларусь была падзелена паміж II Рэч Паспалітую і Савецкую Расію. У міжваенны перыяд Рада БНР знаходзіла сабе прыстанішча ў Берліне, Празе, а пасля вайны ў Амерыцы. Пасля аб'яўлення незалежнасці Беларусі ў 1991 годзе, сярод сяброў Рады ўзнікла пытанне пра далейшы сэнс існавання. Адны выказваліся за перадачу сімвалаў БНР уладам суверэннай ужо краіны, другія прапанавалі пачакаць пакуль незалежнасць набудзе не толькі юрыдычны, але і фактычны характар. Калі Лукашэнка, як прэзідэнт незалежнай краіны, аб'явіў, што зробіць усё, каб вярнуць Савецкі Саюз, усім стала ясным, што за свабоду Бацькаўшчыны трэба будзе далей змагацца.

Падчас выступленняў дэлегаты з паасобных краін выказаліся за працяг місіі Рады БНР. Аляксандр Баршчэўскі (непрысутны, ягонае выступленне зачытала жонка Ніна Баршчэўская) аргументаваў, што існаванне Рады мае глыбокі сэнс з увагі на тое, што сімвалізуе яна дух незалежнасці, а ў існуючай сітуацыі гэта вельмі важнае.

Барыс Рагуля ад імя Прэзідыума Рады запрапанаваў выдаць маніфест, які мог бы стаць падставай парадку незалежнай Беларусі. Першае — гэта вяртанне нацыянальных сімвалаў і 25 Сакавіка, як нацыянальнага свята беларусаў. Другое — прыватызацыя зямлі і іншай маёмасці. Беларуская мова павінна стаць адзінай дзяржаўнай, але ўраднікі павінны ведаць мову, якой у сапраўднасці карыстаюцца грамадзяне. Школа павінна працаваць на мове, якой хочуць бацькі. Першае, што трэба пабудаваць — гэта дом, а пасля можна ставіць у ім мэблю, — гаварыў Барыс Рагуля. У вольнай Беларусі мусяць быць шанаваны правы чалавека. Ніхто не можа быць затрыманы за палітычныя перакананні. Беларусь не патрабуе вялікай арміі, але ўсе сродкі трэба будзе накіраваць на развіццё эканомікі. Вольная Беларусь не павінна аднак сплачваць крэдыты, якія плывуць цяпер з замежжа на ўтрыманне рэжыму Лукашэнкі. Народ гэтымі сродкамі і так не карыстаецца.

Падчас двухдзённых нарадаў падалі розныя прапановы, часам недарэчныя, як, напрыклад, стварэнне эміграцыйнага ўрада. Наогул, аднак, дамінавала думка выказаная Вячкам Станкевічам з Прагі: за палітычны парадак у Беларусі трэба змагацца ў самой Беларусі. Беларусы з замежжа могуць толькі ўсялякімі спосабамі дапамагаць сваім суродзічам на Бацькаўшчыне. **(ям)**

# Лукашэнка загаварыў на беларускай мове

У выніку намаганняў прэзідэнта Беларусі Аляксандра Рыгоравіча Лукашэнкі дзень 3 ліпеня быў устаноўлены дзяржаўным святам. Гэтага дня 1944 г. Савецкая Армія вызваліла Мінск з-пад нямецкай акупацыі. Прыхільнікі савецкага парадку палічылі гэту дату годнай большага ўшанавання чым 27 ліпеня, якую Вярхоўны Савет устанавіў дзяржаўным святам пасля аб'яўлення незалежнасці Беларусі.

Некалькі месяцаў вялася падрыхтоўка да святкаванняў. Сталіца Беларусі памяняла свой выгляд. Прапала характэрная савецкім гарадам шэрасць. У цэнтры горада на будынках паклалі новыя тынкі, памалявалі ўсё, што трэба было памаляваць, адрамантавалі тратуары. Да святкаванняў рыхтаваліся так, як калісь напярэдадні гадавіны бальшавіцкага перавароту ці 1 Мая. Цяпер, аднак, Мінск упрыгожвалі паводле еўрапейскага стылю.

2 ліпеня ў Тэатры оперы і балета ў Мінску адбыўся ўрачысты сход, прысвечаны новаму дзяржаўнаму святу. Згодна з традыцыяй найважнейшым пунктам праграмы было выступленне Лукашэнкі. Калі прэзідэнт пачаў сваё выступленне, прысутныя ў тэатры і, пэўна, мільёны тэлегледачоў аслупянелі. Лукашэнка загаварыў на беларускай мове, прытым прамова давалася яму не горш чым на расейскай. Хаця, праўда, гэтым разам ён не гаварыў, але чытаў святочны даклад. Тым не менш атрымалася нейкая рэвалюцыйная змена „кіраўніка дзяржавы" да ўсяго, што акрэслівае асаблівасці краіны. Змест выступлення аднак не змяніўся. Паводле прэзідэнта стваральнікі Беларускай Народнай Рэспублікі з 1918 г., палітыкі, якія супрацоўнічалі з немцамі падчас II сусветнай вайны і тыя, якія аб'явілі незалежнасць Беларусі ў 1991 годзе — гэта адны і тыя самыя сілы. Вырашальнай падзеяй у гісторыі Беларусі была затое бальшавіцкая рэвалюцыя, якая прывяла краіну на шлях свабоды і дабрабыту. Але гэта нічога новага ў рыторыцы прэзідэнта.

Аднак сам факт, што Лукашэнка загаварыў на беларускай мове выклікае шмат пытанняў. Ці ўслед за кіраўніком дзяржавы пойдуць яго падначаленыя? Ці быў гэта толькі святочны жэст ці можа змена падыходу да роднай мовы? Чым была выклікана такая дэманстрацыя беларускамоўнага Лукашэнкі?

**(рэд.)**

**Адгалоскі**

# Аб розных поглядах

Можна цешыцца і тым, што шклянка да палавіны поўная. Такая сітуацыя цешыць аптыміста. Але ж можна адклопату захварэць, што яна ад палавіны пустая. Гэтае ўжо датычыць песіміста. Як бачым, гэта два розныя погляды на адзін і той самы факт. Так і з адносінамі да розных з'яў штодзённага жыцця. Можна глядзець на іх з розных бакоў.

Няма агульнай справядлівасці. Агульная справядлівасць гэта абсалют. А Ул. Сідарук спаць не можа, што яе няма. Так ужо той свет створаны, што характэрны ён разнастайнасцю. Але ці не трэба змагацца са штодзённай несправядлівасцю, каб дасягнуць абсалют? Вядома, што трэба. Як піша ў адгалосках шматгадовы карэспандэнт („Ніва", № 25), вае ён ужо многа гадоў. Ну і добра. Значыць, нядобра, што так доўга трэба змагацца за дабро і каб было яшчэ лепш, а добра таму, што ёсць людзі, якім неабыякавая ўсялякая несправядлівасць. Дабро, аднак, гэта не раз устаноўлены абсалют, гэта працэс, так як і зло.

А цяпер другая справа, асабістая, хаця я стараюся асабістых спраў не кранаць. Спадар Сідарук, як і Грыша Мароз, на словы, нават і не крытыкі, а толькі проста сяброўскай заўвагі, што на свет глядзяць песімістычна, проста напалі на мяне з кулакамі слоў. Аж баюся ехаць на бацькаўшчыну, каб не апляўшылі мяне там сапраўднымі кулакамі.

Трэба ведаць, што вы, карэспандэнты, не звычайныя, такія сабе сяляне, як той Грышаў сусед ці іншы сябра пенсіянера Сідарука. Вы, дарагія, з'яўляецеся проста шматгадовымі публіцыстамі, якія выказваюць публічна акрэсленыя і часта рашучыя погляды. І што, хочаце быць прытым „святымі каровамі" публіцыстыкі? Ці нельга вашых поглядаў кранаць, бо лепш ведаеце, што робіцца на Гайнаўшчыне, чым якісь там задрыпанец з Сопата?! У тым і заключаецца дэмакратыя, што і я магу дакінуць некалькі слоў да таго, што пішаце і аб чым пішаце.

Пэўна. Не пішу карэспандэнцый аб тым, што тут у нас, над морам дзеецца. Але, хтосьці не піша, каб пісаць мог хтось. Калі так грунтоўна перагледзіце „Ніву" ці „Зорку", то нашы наймалодшыя карэспандэнты апошнім часам многа пішуць пра Гданьск. І не толькі яны. Лена Глагоўская што і раз дасылае інфармацыю пра нашых тут беларусаў. То куды мне яшчэ пхацца перад такіх слаўных карэспандэнтаў. Прытым я зусім не карэспандэнт, толькі — просты чытач „Нівы", які, як Грыша Мароз іранічна піша, „сваё гняздзечка звіў дзесьці над морам". Кожны, як гаворыцца „orze jak może". Адзін над морам, другі ў Старым Беразове.

Няпраўда, што я хацеў кагось вучыць як трэба гаспадарыць. Праўда, каб гаспадарку добра весці, трэба мець вопыт і розум. Праўда, што ўвосень дзяржава скупляла збожжа, пра бульбу не ведаю; можа так, можа не. Праўда, што камуна знішчыла сельскую гаспадарку (слаўныя калгасы). Няпраўда, што дзякуючы (?) камуне ўцёк я ў горад. І так можна цягнуць доўга: праўда, няпраўда. Я пісаў, што чакаць таго, што дзяржава мае заняцца сельскай прадукцыяй, гэта проста страта часу і гэтая думка выводзіцца з даўнейшых часоў. Калісь дзяржава фактычна займалася ўсім. Нават мною. Усе мелі больш-менш аднолькавыя грошы. Кожны хлам прадаваўся як цёплыя булачкі. Тавар прадаваўся па блату.

Калі нехта не зразумее таго, што я ахвотней куплю, для прыкладу, кілаграм чысценькай, у сетачку упакаванай бульбы за 50 гр. чым той самы кілаграм бульбы з пяском, рознага сорту і палавіну з таго яшчэ выкіну, за 25 гр., то не разумее сучаснасці. Я за бульбу плачу сваімі грашыма, не падараванымі мне, а толькі такімі, якія я зарабіў за сваю працу. Прытым, я купляю тую ж бульбу не таму, каб хтось мог яе працаваць, а таму, каб зварыць яе на абед. Вось і ўся праўда. І ні пры чым тут тое, што я, як сялянскі сын, павінен зразумець як цяжка вырасціць гэтую бульбу. Я разумею, што цяжка. Добра было б, каб нехта зразумеў, што цяжка і зарабіць грошы, каб яе купіць. Але не пра мяне ж тут ідзе гаворка, хоць Грыша Мароз невядома чаму ў той бок спіхае дыскусію. У горадзе жыве больш-менш 70% жыхароў Польшчы і кожны з іх мае такі клопат як і я, таксама жыхар горада. У тым то і праблема, як пагадзіць процілеглыя інтарэсы. Думка сялянскай партыі ПСЛ, каб закрыць граніцы для замежных прадуктаў і каб людзі купілялі нашу бульбу, і ў такой задрыпанскай яшчэ форме за 25 гр. супадае з думкамі нашых сялянскіх братоў. А калі не стане канкурэнцыі, то яе цана ўзрасце не толькі да 50 гр. Але ці гэта добры выхад, каб эканомікай кіравала палітыка? Вядома, што не. І так будзе, што паўстануць на вёсцы вялікія гаспадаркі, ужо паўстаюць. Ні пры чым тут уваход у Еўрапейскі Саюз.

Кранае Грыша Мароз вельмі важную справу для вёскі — адукацыю. Статыстыка паказвае, што на вёсцы жывуць лічаныя адзінкі з сярэдняй і вышэйшай адукацыяй. Мой погляд такі: так званую інфраструктуру, якая абслугоўвала б сялянскую „прадукцыю" не створаць людзі з падставовай адукацыяй. Проста, трэба ведаць, як умела сарганізаваць, напрыклад, продаж той жа няшчаснай бульбы, або трэба ведаць як на месцы яе перапрацаваць на фры. Сарганізаваць так, каб я яе купіў ахвотней за 49 гр. або і танней. Без падзелу работы не ўдасца дасягнуць сякога-такога паляпшэння жыцця на вёсцы. Грыша Мароз кажа, каб я вярнуўся на вёску, заняўся гаспадаркай і паказаў, як трэба гаспадарыць (так як бы ён гэтага не ведаў). Я не гавару, што калі яму так кепска, то тады няхай займаецца інфарматыкай, якой я займаюся дзесяткі гадоў. Думаю, што няхай ужо так будзе, каб кожны займаўся тым, чым займаецца і любіць рабіць.

**Міхась Куптэль**

PS. 1. Маю пытанне да Ул. Сідарука. Піша ён „Толькі вы **ўсё** (вылучэнне — М. К.) перапуталі на **свой** (выл. — М. К.) спосаб, як гэта робіць журналіст Яцэк Федаровіч у ...". Фактычна так ёсць, што **ўсё** путаю? І ці маю **свой** спосаб путання? Ну, бо калі гэта мой спосаб путання, то не Яцка. Хачу сказаць, што нічога не путаю, і не маю свайго спосабу путання, калі не путаю. Я проста хацеў звярнуць увагу, што пры камуне жылося па-рознаму і што дэмакратыя не вінавата, што дзеецца зло, і што ў напрамку дэмакратыі зроблены толькі першы крок.

PS. 2. За мой „талент" дзякую Грышу Марозу. Каб яшчэ мая жонка была пераканана ў маім таленце.

PS. 3. Г. Мароз піша: „Адно астаецца прымкнуцца і другім не мяшаць". Не трэба. Не мяшаеце. Апошнія вашы гутаркі з суседам — смакавіты. Гутарыце далей і пішыце аб гэтым у „Ніву". **М. К.**

# Грамадскі прапагандыст фізкультуры

**Арлянская гміна можа ганарыцца людзьмі спорту і традыцыяй прапагандавання фізычнай культуры ў вясковым асяроддзі. Аляксандр Война, у гонар якога праводзіцца лёгкаатлетычны мемарыял у Беластоку, паходзіў з самой Орлі, а сёння ягоны сын Цэзары з'яўляецца адным з лепшых у краіне кідальнікаў кап'я. У 1990-х гадах высокіх вынікаў у кіданні кап'я ў катэгорыі юніёраў дабіўся Яраслаў Вітошка з Орлі. У мінулым значную ролю ў развіцці спорту адыгралі настаўнікі фізкультуры — Васіль Ляшчынскі ў Моры і Раман Лудзь у Орлі. Шмат гадоў распаўсюджваннем вясковага спорту займаецца таксама Сцяпан ЛУШЧ з Кашалёў.**

— Спортам, а перш за ўсё футболам цікаўлюся з дзяцінства, — расказвае Сцяпан Лушч, 43-гадовы жыхар Кашалёў. — І хаця нашу акуляры, іграў я ў мясцовай камандзе. Падчас навукі ў прафесіянальнай будаўнічай школе належаў я да ЛЗС (народных спартыўных калектываў), а пасля заканчэння школы ў 1972 г. стаў я старшынёю гэтай арганізацыі. Ладзілі мы тады розныя спаборніцтвы, за што ўзнагародзілі мяне сярэбраным і залатым медалямі.

Тады на вёсцы не было клуба, а і тэлевізар быў яшчэ рэдкай з'явай і таму моладзь больш цікавілася фізічнай культурай. Амаль у кожнай вёсцы была футбольная каманда і кожную нядзелю разыгрываліся матчы. Свае каманды мелі Орля, Міклашы, Малліннікі, Кашалі. У нас не было тады спартыўнай пляцоўкі і ганялі мы мяч па выгане каля могільніка.

У пачатку 1980-х гадоў вярнуўся са Шлёнска мой сябра, аднасяльчанін Сцяпан Хурса і рашылі мы тады пабудаваць сапраўдную пляцоўку для футбола. Атрымалі мы адпаведны пляц, а гміна наняла бульдозер і іншыя машыны. Дапамагала нам уся кашалёўская моладзь. У выніку атрымаўся стадыён — з лаўкамі для балельшчыкаў і раздзявальняй для спартсменаў. А калі мы справіліся з пляцоўкай, тады ўзяліся рамантаваць святліцу, на гарышчы якой сарганізавалі кавярню. Ініцыятарам гэтай грамадскай акцыі быў Сцяпан Хурса. А я пачаў падбіраць хлопцаў з розных вёсак для футбольнай каманды. Тады найбольш футбалістаў было ў Орлі, Кашалях і Міклашах. Каманда называлася LZS Koszele, а з 1989 г. прыняла назву SPiUR Orla, бо мясцовы СКР пачаў дапамагаць нам фінансава — давалі машыну, на якой футбалісты выязджалі на матчы.

Наша каманда ўжо восем сезонаў іграе ў класе Б. Найгорш было два гады таму, калі я нават думаў распусціць каманду. Тады не было каму ездзіць на матчы, а за неразыграны матч трэба было плаціць 800 тысяч старых зл. штрафу. Цяпер каманду папоўнілі хлопцы, якія толькі што выйшлі з войска. Узрост нашых футбалістаў — 23-27 гадоў. Займаюцца ў нас хлопцы з Бельска-Падляшскага, Беразова, Махнатага, Чыжоў, Маліннік, Орлі, Міклашоў і Кашалёў. Суседнія футбольныя каманды працуюць яшчэ ў Чаромсе, Нарве, Нараўцы, Белавежы, Гайнаўцы, Дубічах-Царкоўных, Боцьках і Браньску. На спаборніцтвы ездзім па ўсім ваяводстве. Былі мы, напрыклад, у Дуброве-Беластоцкай, дзе разыгрывалі матч з камандай з Каменнай-Новай.

Цяпер ва ўсім Беластоцкім ваяводстве налічваецца 9 каманд (раней было іх 12), а наша каманда займае 4-5 месца (20 ачкоў). Першае месца займае каманда з Мінкоўцаў каля Саколкі (35 ачкоў). Радуемся, калі выйграваем матч. Хвалюемся, калі балельшчыкі паводзяць сябе некультурна, або калі трапляецца неаб'ектыўны суддзя. Найлепшыя арбітры — маладыя суддзі з Беластока.

Мая мара — увайсці у клас А, але гэта складаная справа. Калі б усе нашы спартсмены падыходзілі да справы прафесійна, то гэты калектыў меў бы такі шанц. Але што рабіць, калі часам футбалісты прыходзяць на нядзельны матч пасля суботняй дыскатэкі... Грошай таксама нам не хапае. Патрэбны спонсар, бо няма за што купіць абутку (адна пара каштуе 120 зл.).

Наша спартыўная пляцоўка лічыцца адной з лепшых у ваяводстве. Паглядзець матчы прыходзіць 150-200 балельшчыкаў. Плануем зрабіць корт для тэніса. Лепш каб моладзь займалася спортам, замест жлукціць піва па барах.

Я займаюся камандай на грамадскіх пачатках і нават сам мыю майкі футбалістам. Калісьці давалі з гміны нейкія дробныя сувеніры, але цяпер забылі пра гэта. Усе ведаюць, што калі Сцёпкі Лушча не стане, то і каманды не будзе, а пляцоўка парасце травою. Але я не здаюся. Чарговы восеньскі футбольны раунд пачынаецца ўжо ў верасні 1997 г.

**Запісаў Міхал Мінцэвіч**

*Фота з архіва аўтара*



*Радасць ад завяршэння будовы спартыўнай пляцоўкі — пачатак 80-х гадоў. Сядзяць на сеялцы (злева): Сцяпан Хурса, Пятро Шэранос, Сцяпан Лушч, Яўген Таранта і Юры Каліна. Унізе (злева): пакойны Анатоль Орда і Канстанцін Куна.*

# Нашы карані

**CIV. Адраджэнне**

Пасля афіцыйнага аб'яўлення 6 кастрычніка 1596 года ў Бярэсці мітрапалітам-уніятам Рагозам уніі і зацвярджэння каралём Зыгмунтам III Вазам 15 кастрычніка таго ж года уніі як дзяржаўнай Царквы, праваслаўная Царква ў тадышняй Рэчы Паспалітай фактычна была пазбаўлена ўсіх правоў, аказалася па-за правам. На праваслаўных навальіліся такія ж ганенні і праследаванні, як на хрысціян у першыя стагоддзі пасля крыжовай смерці Хрыста.

Вёсці дзейсную абарону праваслаўным моцна перашкаджала тое, што Царква на беларускіх і ўкраінскіх землях не мела кіраўніцтва, бо мітрапаліт і большасць епіскапаў пайшлі ва унію. Вернымі праваслаўю засталіся ўсяго два епіскапы, а пасля іх смерці захаваць праваслаўе ўдалося хітрасцю толькі аднаму новаму епіскапу львоўскаму Іераміі Цісароўскаму. Яму аднаму давялося спраўляцца з тым мноствам абавязкаў, якія выконвалі мітрапаліт, некалькі епіскапаў і больш за сто благачынных. Аднаму чалавеку гэта было не пад сілу, але ўладыка Іерамія працаваў не пакладаючы рук. І Гасподзь не пакінуў свае Царквы, не асудзіў яе на пагібель.

У 1619 годзе ва Усходнюю Славяншчыну па даручэнні праваслаўных патрыярхаў дзеля ўпарадкавання царкоўных спраў у Маскоўскім і Літоўскім вялікіх княствах прыбыў патрыярх іерусалімскі Феафан. Пасля пастаўлення мітрапаліта Філарэта патрыярхам маскоўскім і ўладкавання многіх іншых царкоўных спраў Яго Святасць у пачатку 1620 года прыбыў у Кіеў. Тут па ўсеагульнай просьбе праваслаўных, прадстаўнікі якіх з'ехаліся з усяе Рэчы Паспалітай у Кіеў на прастольнае свята Кіева-Пячэрскай лаўры, Успенне Божай Маці, патрыярх пасля доўгіх разважанняў згадзіўся патаемна рукапалажыць для беларусаў і ўкраінцаў мітрапаліта і епіскапаў. Казакі на чале з гетманам Пятром Сагайдачным гарантавалі Яго Святасці поўную бяспеку і свабоду і адначасова абсалютную таямніцу свяшчэннадзеяння. Гэтак 6 кастрычніка 1620 года, глыбокай ноччу, пры заслоненых вокнах у Кіева-Міхайлаўскім манастыры патрыярх Феафан з удзелам балгарскага мітрапаліта Неафіта і грэчаскага епіскапа Аўраама рукапалажылі ў епіскапа смаленскага ігумена Ісаію Капінскага, затым 9 кастрычніка ў тым самым месцы з захаваннем тае ж асцярожнасці ў мітрапаліта Кіеўскага і ўсяе Русі быў высвечаны Іоў Барэцкі, ігумен Міхайлаўскага манастыра, рэктар брацкай школы ў Кіеве, а праз некалькі дзён у сан епіскапа полацкага быў рукапалажаны дзеяч праваслаўнае Царквы на Беларусі Мялецій Сматрыцкі, а на турава-пінскую кафедру быў назначаны грэчаскі епіскап Аўраам. Такім чынам патрыярх Феафан высвяціў 6 епіскапаў і мітрапаліта і адбудаваў, адрадзіў усю іерархію праваслаўнай Царквы ў Рэчы Паспалітай. Пра гэта польскія ўлады, у тым і кароль, даведаліся даволі позна, пасля высвячэння, зусім перад ад'ездам патрыярха Феафана на радзіму ў канцы 1620 года. Польскія ўлады не прызналі адроджанай іерархіі, але новавысвечаныя епіскапы раз'ехаліся па сваіх епархіях, скрыліся ў розных манастырах і патаемна адразу прыступілі да актыўнага дзеяння ў аднаўленні, адроджанні праваслаўнага духовага жыцця. Так наперакор усялякім ворагам і перашкодам уваскрэсла на беларускіх землях праваслаўная Царква.

**Мікола Гайдук**

# Экзамены ў белліцэй

23 і 24 чэрвеня прайшлі ўступныя экзамены ў сярэднія школы. Як выглядалі экзамены ў Агульнаадукацыйны ліцэй № 2 з беларускай мовай навучання ў Гайнаўцы на фоне іншых школ у горадзе?

Без экзаменаў былі прыняты 8 пераможцаў прадметных конкурсаў: Міраслаў Ляшчынскі, Андрэй Нігірэвіч, Мілена Русіновіч, Анна Садоўская, Анэта Леановіч, Ева Аніщук, Павел Рачкевіч і Тамаш Сцепанюк. Паступіць у ліцэй жадала 129 выпускнікоў пачатковых школ. Пасля пісьмовай працы па польскай мове дрэнныя адзнакі атрымалі 18 кандыдатаў, што складае 14% ад агульнай колькасці экзаменаваных. У Механічным і Драўніным тэхнікумах на 154 кандыдатаў дрэнныя ацэнкі па польскай мове атрымалі 33 асобы (21,4%), а ў Агульнаадукацыйным ліцэі № 1 адпаведна: на 136 чалавек — 19 (14%). Кандыдаты ў белліцэй аднолькава найлепш здалі экзамен па матэматыцы. Толькі 9 асоб атрымалі дрэнныя ацэнкі пасля пісьмовага экзамена, што складае 7% кандыдатаў. Паказчык дрэнных адзнак па матэматыцы ў іншых школах быў горшы: у ліцэі № 1 — 19 вучняў (14%), у тэхнікумах — 43 (27,9%). Кандыдаты ў белліцэй атрымалі таксама найлепшую сярэднюю ацэнку

Вышэйпаказанае добра сведчыць аб зацікаўленні ліцэем з боку найлепшых выпускнікоў пачатковых школ і дае гарантыю на прыток здольных вучняў у будучым. Пасля вусных экзаменаў толькі двое кандыдатаў атрымалі дрэнныя адзнакі па матэматыцы. Стварылася нават такая сітуацыя, што для 15 вучняў, хаця яны паспяхова здалі экзамены, не хапіла месца ў ліцэі. Дырэкцыя школы выйшла ім насустрач і пасля кансультацыі з Куратарыяй асветы вырашыла адкрыць пяты аддзел першага класа.

Экзамены ў гайнаўскі белліцэй здалі паспяхова таксама чацвёра маіх выхаванцаў з Дубіч-Царкоўных: Ірэна Кулік, Крыстафор Саевіч, Бажэна Леанюк і Давід Скаварodка. Усе яны атрымалі пасведчанні з вылучэннем. Цешыць мяне тое, што буду з імі сустракацца ў наступным навучальным годзе, паколькі буду выкладаць геаграфію ў трох класах ліцэя. А цяпер жадаю ўсім вучням прыемна правесці канікулы.

**Славамір Кулік**

# Кніжка пра Нараўку

Гмінная ўправа ў Нараўцы выдала нядаўна аднатысячным тыражом кніжку „Dobra i miasteczko Narewka na tle dziejów regionu (do końca XIX wieku)", напісаную Даротай Міхалюк, аўтаркай год раней выдадзенай кніжкі пра Нарву і ваколіцы.

Праца мае навуковы характар і знаёміць чытача з пасяленнямі ў ваколіцах Нараўкі, з уласнікамі маёмасці Нараўка ў XVI—XVIII стагоддзях. Змяшчае таксама кароткі гістарычны нарыс аб мястэчку. У асобным раздзеле аўтарка дае перагляд падзей у час паўстанняў 1830 і 1863 гг. на тэрыторыі Белавежскай пушчы. Кніжку зачыняюць геаграфічна-гістарычны слоўнік мясцовасцей і спісак выкарыстаных у працы крыніц. Да кніжкі дададзены карты, планы, табліцы і здымкі.

**Пётр Байко**

# Зорка
## СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

Ала Канапелька

### Цёця Мурка

„Цёця Мурка, адкажыце,
ад чаго ў вас мокры нос?
Цёця Мурка, пакажыце —
вунь які ў вас ву-ус адрос!

Цёця Мурка, пачакайце,
я вам футра расчашу.
Цёця Мурка, не ўцякайце:
я ж вас гладжу — не душу!

Цёця Мурка, не ліжыце,
дайце лапы палічыць!
Зараз ціхенька ляжыце —
буду вушкі вам лячыць.

Не жадаеце? Мне дзіўна!
Мо баліць у вас жывот?
Стане яснаю карціна,
калі палец суну ў рот!

Цёця Мурка, вашы губы
трэба неяк расшчапіць!...
А ці восьторыя ў вас зубы?
А вы можаце ўкусіць?

Язычок які ружовы
— дайце мне яго сюды!
Цёця Мурка, што вы, што вы?!." —
плач і енк на ўсе лады!

І, адбегшы да парога,
Мурка дзівіцца з малога:
„Мур-р! Чаго загаласілі?
Вы прасілі — мы ўкусілі!"

### Цікаўны пальчык

То не мышка і не зайчык —
то цікаўны лезе пальчык.

Прадзіравіў ён насы,
не баіцца ён расы,
лезе з туфелькаў на волю.

Я цікаўнага спатолю
і абую басаножкі —
хай пільнуецца дарожкі!



*Аня і Андрэй Грыгарукі з Гайнаўкі.* Фота Ганны КАНДРАЦЮК

## „Кобра" — на мяжы права

Мы ўжо прывыклі, што ў карцінах з Сільвестрам Сталоўнам льецца многа крыві. Так ёсць і ў „Кобры", якой пастаноўшчыкам ёсць Джордж Касматас.

Галоўны герой — гэта Мар'ён Кабрэці, паліцэйскі з „Аддзялення нябожчыкаў" — групы, якая займаецца псіхамі. Яго называюць „Кобра". „Кобра" не баіцца нікога і нічога. Нават калі псіх страляе ў яго, ён, не звяртаючы ўвагі на злачынцу, спакойна п'е піва. „Кобра" думае, што для псіхаў няма права і іх трэба забіваць. Так ён і робіць з чалавекам, які стэрарызаваў краму.

Кабрэці атрымаў задачу ўстрымаць хеўру злачынцаў, што забіваюць „слабых" людзей. Ён ахоўвае мадэльерку, на якую „палююць" гэтыя людзі.

Пастаноўшчык прадставіў „Кобру" як чалавека, які ўсё ўмее, не баіцца нават даволі вялікай групы людзей.

Гэтая карціна ёсць з тых, якіх вельмі многа ў сённяшнім кіно — змаганне і кроў. Аднак адрозніваецца ад іншых тым, што ў ёй выступае Сільвестар Сталоўн — кіназорка са ЗША.

Тут паказана вайна паміж станоўчымі і адмоўнымі людзьмі.

Мне гэтая карціна вельмі спадабалася таму, што ў яе ёсць хуткае дзеянне і многа сцэн змагання. Думаю, што мы павінны часам, не вельмі часта, паглядзець такі фільм, каб пабаяцца.

Рэкамендую гэтую карціну тым, хто яшчэ не глядзеў „Кобру".

**Міхась Сцепанюк**
**VII „е" клас ПШ н-р 3**
**у Бельску-Падляшскім.**

*(рэцэнзія атрымала ўзнагароду Яна Максімюка — „Беларуска-польскі і польска-беларускі слоўнік".)*

## Іван Луцкевіч

Нарадзіўся ў 1881 годзе ў мясцовасці Шаўляй, што на Віленшчыне. Вучыўся ў Мінскай гімназіі, пасля закончыў Маскоўскі археалагічны інстытут і Пецярбургскі універсітэт. Будучы гімназістам разам з братам Антонам арганізаваў сярод мінскай моладзі гурткі зацікаўлення беларускай гісторыяй і культурай, мабілізаваў да карыстання роднай мовай. Амаль усё, што адбывалася ў беларускім нацыянальным руху пачатку XX стагоддзя выклікана было па ініцыятыве Івана Луцкевіча і яго сяброў. У 1903 годзе ўдзельнічаў ён у заснаванні Беларускай сацыялістычнай грамады, а пасля газет „Наша доля", „Наша ніва", „Гоман", выдавецтва „Наша хатка". У 1913 годзе арганізаваў Беларускае выдавецкае таварыства, якое пачало выпускаць кніжкі беларускіх аўтараў, прысвечаныя ўласнай гісторыі і культуры. З'явілася такім чынам канкурэнтная інфармацыя для фальшаванага вобраза беларускай мінуўшчыны, які вякамі стваралі палякі і расейцы. Падчас першай сусветнай вайны, калі Беларусь апынулася пад нямецкай акупацыяй, узніклі ўмовы для стварэння беларускай асветы. Іван Луцкевіч арганізаваў настаўніцкія курсы, ствараў беларускія школы на Віленшчыне, Гродзеншчыне і Беласточчыне. У 1916 г. па ягонай ініцыятыве была створана Беларуская віленская гімназія, якая неўзабаве стала школай беларускага патрыятызму.

Іван Луцкевіч быў таксама знакамітым палітыкам. Разам з братам Антонам апрацавалі канцэпцыю стварэння беларускай дзяржаўнасці ў этнаграфічных граніцах. Акт 25 Сакавіка і аб'яўленне незалежнасці Беларусі было здзяйсненнем яго планаў.

Іван Луцкевіч памёр 20 верасня 1919 года ў Закапанэ, што ў Польшчы. Прабываў там ратаваць сваё здароўе. У 1991 годзе намаганнем Юркі і Алега Латышонкаў з Беластока быў перапахаваны ў Вільні.

## Польска-беларуская крыжаванка № 29

**Адказ на крыжаванку 25:** спальны мяшок, мур, араты, палац, крылы, сыр, бас, аса, суп, прас, алтар, нырка, Марс, пяты, шыла, ікона.

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Rdza | Harfa / Myśl | | | | | Allach | Ikona | |
| Trus-kawki | | | | | | | | Irak |
| | | | | | | | | |
| Wiązka, pęk | | | | | | Jol | | |
| Akr | | | | Fakt / Zasób | Ona | | | |
| Odłamek | | | | | | | | |

## Летнія пошукі карэнняў

Канікулы — гэта час, калі наведваем сваякоў, бабуль, дзядуляў. Размовы са старымі людзьмі могуць кожнага з нас многаму навучыць. Аднак найважнейшая каштоўнасць — гэта ўспаміны пра нашу сям'ю. Бабулі ці дзядулі нясуць у сваёй памяці інфармацыі пра прадзедаў, колішняе жыццё ці мясцовасць, у якой пражываем. Усе інтэлігентныя людзі знаёмяцца са сваімі продкамі. Бяда толькі, што зацікаўленне родам узнікае ў дарослыя гады жыцця. Але тады ўжо бывае так, што няма і каго папытаць пра гэта. Памяць нашых бацькоў не сягае так далёка, як нам хацелася б.

Усім зацікаўленым прапаную прыглядзецца да публікацыі „Генеалагічнае дрэва Ані Сідарук". А можа і вы паспрабуеце нарысаваць дрэва свайго роду? Кожны, хто зведае гэты занятак, перажыве незабыўныя хвіліны. Пабачыце, колькі ўзнікне ў вас новых думак і пытанняў. Добра, калі знойдзеце старыя здымкі. Пацікаўцеся лёсам людзей са старых фатаграфій. Можа здарыцца, што такія здымкі ляжаць нікому ўжо непатрэбныя на гарышчы. Тады абавязкова забярыце іх у свой архіў і захавайце для будучых пакаленняў. За гэта будуць вам удзячныя вашы дзеці, а можа і ўнукі.

Зараз у свеце вельмі модны пошук сваіх карэнняў. Людзі плацяць вялікія грошы за рэканструкцыю свайго генеалагічнага дрэва ды вешаюць яго ў рамках быццам карціну. Гэтая тэндэнцыя неўзабаве дойдзе і на Беласточчыну. Так што выкарыстайце для гэтай мэты канікулы!

**Зорка**

# Чараўніца

Жыла сабе раз удава, і былі ў яе дачкі. Старэйшая і з характару, і з твару была вельмі падобная да маці, — такая падобная, што людзі, убачыўшы іх разам, не маглі адрозніць, дзе адна, а дзе другая. Абедзве яны былі такія агідныя і такія фанабэрыстыя, што жыць з імі было немагчыма. А вось меншая дачка сваёй дабрынёй і сумленнасцю была чысты бацька. І апроч таго яна была такая прыгожая, што другой такой не было нідзе ў свеце. Ды ўсё ж, вядома, падобнага да сябе любяць болей, і таму ўдава вельмі любіла старэйшую дачку і трываць не магла малодшай. Яна прымушала яе есці толькі на кухні і ўвесь час давала ёй якую-небудзь цяжкую працу.

Абавязкам беднай дзяўчыны было двойчы на дзень хадзіць па ваду аж за дзве вярсты ад дома, і кожны раз яна павінна была прынесці вялізны збан, поўны да берагоў. І вось аднаго разу, калі яна была ля крыніцы, да яе падышла бедная кабета і папрасіла напіцца.

— Зараз, зараз, цётачка, — сказала прыгожая дзяўчына. Яна хуценька спаласнула збан, наліла ў яго вады з найчысцейшага месца ў крыніцы і падала яго кабеце. Каб той зручней было піць, дзяўчына ўвесь час яго падтрымлівала. Напіўшыся, кабета сказала:

— Ты такая прыгожая, такая добрая і такая ветлівая, што я хачу зрабіць табе падарунак (а гэта была чараўніца, якая наўмысна абярнулася беднай сялянкай, каб пабачыць, якое сумленне ў гэтай дзяўчыны).

— Я вырашыла надзяліць цябе дарам, — сказала чараўніца. — Дзякуючы яму пры кожным слове, якое ты вымавіш, з рота ў цябе будзе выпадаць кветка або каштоўны камень.

Неўзабаве дзяўчына вярнулася дадому. Маці адразу накінулася на яе сварыцца, што яна так доўга хадзіла па ваду.

— Калі ласка, мама, даруйце, што я так спазнілася, — сказала бедная дзяўчына.

І пры гэтых словах з рота ў яе ўпалі дзве ружы, дзве перліны і два вялікія дыяменты.

— Што такое? — крыкнула маці, вельмі здзівіўшыся. — Па-мойму, у яе з рота выпалі дзве перліны і два дыяменты?! Адкуль гэта ў цябе, дачушка мая? (Гэта быў першы раз, калі яна назвала яе дачушкай).

Бедная дзяўчына шчыра распавяла ёй пра ўсё, што з ёй здарылася, і насыпала пры гэтым безліч дыяментаў.

— Вось табе маеш! — сказала маці. — Трэба будзе паслаць туды і маю старэйшую. Чуеш, Фаншона? Пабач, што падае ў тваёй сястры з рота, калі яна гаворыць! Хочаш мець такі дар? Тады бяры збанок, ды схадзі па ваду да крыніцы, а калі якая-небудзь бедная кабета папросіць у цябе напіцца, налі ёй у збанок вады ды напаі.

— Яшчэ чаго! — груба адказала Фаншона. — Ніколі такога не будзе, каб я пайшла на крыніцу!

— А я кажу, што пойдзеш, — паўтарыла маці, — і зараз жа.

Давялося такі старэйшай дачцэ ісці, хоць яна ўвесь час незадаволена бурчала. А з сабой яна ўзяла найлепшы срэбраны збанок, які быў у хаце. І вось, ледзь яна паспела падысці да крыніцы, як убачыла, што з лесу выйшла раскошна апранутая пані. Гэта была тая самая чараўніца, якая раней гутарыла з яе сястрой, а цяпер абярнулася прынцэсай, каб пабачыць, наколькі гэтая дзяўчына можа быць несумленная. Яна падышла да старэйшай сястры і папрасіла ў яе напіцца.

— Яшчэ чаго! — груба крыкнула чараўніцы фанабэрыстая дзяўчына. — Што я сюды прыйшла вам ваду падаваць?! Ці вы думаеце, я прынесла гэты срэбраны збанок, каб вы з яго тут пілі! Вось што я вам скажу: піце проста з крыніцы, калі вам так хочацца.

— Вы вельмі нявеслівая, — адказала чараўніца, але на твары ў яе не выявілася ніякага гневу. — Ну што ж, калі вы такая грубая, я надзяляю вас дарам: пры кожным слове, якое вы скажаце, з рота ў вас будзе выскокваць гадзіна ці рапуха.

Яшчэ здалёк заўважыўшы сваю любую дачушку, маці закрычала:

— Ну што, дачушка мая?

— А нічога, мая матухна... — адказала грубіянка, і з рота ў яе выскачылі дзве рапухі і дзве гадзіны.

— О неба! — крыкнула маці. — Што я бачу? Усё гэта з-за тваёй сястрыцы! Ну, яна ўжо мне заплаціць!

І яна пабегла па малодшую дачку, каб яе набіць.

Але бедная дзяўчына ўцякла і схавалася ў лесе. Там яе і спаткаў сын караля, які вяртаўся з палявання. Ён заўважыў, якая яна прыгожая, і спытаўся, чаму яна тут адна і чаго плача.

— О, пане! — адказала дзяўчына. — Маці выгнала мяне з хаты.

Убачыўшы, што з рота ў яе выпалі шэсць перлаў і столькі ж дыяментаў, сын караля вельмі здзівіўся і спытаў, як у яе гэта выходзіць. І дзяўчына расказала гісторыю, якая з ёй здарылася. Пачуўшы гэта, сын караля вельмі ў яе закахаўся і падумаў, што такі дар варты ўсяго, што могуць даць у пасаг за любой прынцэсай. Ён прывёз дзяўчыну ў палац да свайго бацькі-караля, і там яны пажаніліся.

Што ж да яе сястры, дык тая хутка ўжо так усім абрыдла, што родная маці не вытрывала ды выгнала яе з хаты. Нябога доўга тулялася сям і там, але так і не знайшла нікога, хто б яе прытуліў. Так яна і памерла адна ў нейкім глухім лясным закутку.

**Мараль**

Дыяменты і аздобы  
Вабяць моцна ўсіх людзей,  
Але ветлівыя словы  
Больш маюць сілы і каштуюць даражэй.

**Другая мараль**

Няпроста дагаджаць усім  
І далікатным быць заўсёды,  
Ды ўрэшце ўсё вянчае ўзнагарода —  
Якраз тады, як пра яе не думаеш зусім.

**Шарль Пэро**

# Генеалагічнае дрэва Ані Сідарук



# КУПАЛЛЕ '97

*Фотарэпартаж Сяргея Грынявіцкага з купальскіх святкаванняў у Белавежы — 5 ліпеня 1997 г.*



*Артысты з Гайнаўскага дома культуры.*



*Артысты Беластоцкага аддзела БГКТ.*



*„Жаравінка" з Агароднічак.*



*У лепшую будучыню вядзе Янка Сычэўскі: „Dobre dziś — lepsze jutro".*

# Двум паслам — два пытанні

У канцы чэрвеня Сейм прагаласаваў супроць змены 49 артыкула Ustawy o stosunku Państwa do Polskiego Autokefalicznego Kościoła Prawosławnego яшчэ з 1938 года. Гэты закон не дае права Праваслаўнай царкве на 23 храмы ў Кросненскім, Новасончаўскім і Пярэмышльскім ваяводствах, якія ад 1947 года былі ва ўладанні Праваслаўнай царквы.

Усе законы, якія датычыліся касцёлаў, уводзілі прынцып, што ўся маёмасць, якою яны валодалі ў дзень ўваходу закону ў жыццё, пераходзіць у іх уласнасць.

Толькі ў выпадку Праваслаўнай царквы не быў уведзены запіс, што маёмасць, якая знаходзілася ў яе ўладанні, пераходзіць у яе ўласнасць аўтаматычна.

Усяго 40 паслоў Сейма (на 357 галасуючых) было за змену 49 артыкула. Сярод іх — усяго 8 паслоў з СЛД. Мы звярнуліся да двух паслоў СЛД з нашага рэгіёна: Сяргея Плевы і Станіслава Малішэўскага — з просьбай адказаць, чаму яны галасавалі так, а не інакш.

**Пасол Сяргей Плева галасаваў „за":**

***— Чаму Вы галасавалі „за" навелізацыю?***

— Гэту навелізацыю трэба было прыняць хаця б дзеля таго, каб даць роўныя шанцы для Праваслаўнай царквы. Праблема існуе ўжо некалькі гадоў, калі была прынята Ustawa o stosunku Państwa do Polskiego Autokefalicznego Kościoła Prawosławnego (4 ліпеня 1991 г.). На той час гэты закон быў наватарскі, аднак, дыскрымінаваў Праваслаўную царкву ў параўнанні з Каталіцкім касцёлам.

Закон, прыняты пазней, датычыўся адносін дзяржавы да іншых касцёлаў і рэлігійных саюзаў. Гэта праблема трактавалася правідлова, бо былі створаны роўныя правы для іншых рэлігій.

Закон аб адносінах дзяржавы да Праваслаўнай царквы не дачакаў, аднак, навелізацыі, якая зраўняла б Праваслаўную царкву з усімі касцёламі.

Асабліва датычыць гэта маёнткавых спраў. Не можа быць так, што ўсім касцёлам і рэлігійным саюзам дзяржава звяртае іх маёмасць, а Праваслаўная царква за гэты маёнтак мае судзіцца.

І таму я (і многія мае сябры, як хаця б пасол Казімеж Ныч з Пярэмышля) галасавалі за прыняццё заявы меншасці аб тым, каб даць магчымасць Праваслаўнай царкве звярнуць сваю маёмасць па сіле закону.

Маю надзею, што Сенат РП, да якога пастанова была накіравана, у парламентарнай працэдуры гляне спагадлівым вокам на справы праваслаўных, возьме пад увагу заяву меншасці і запрапануе яе ў форме сваёй папраўкі, аб чым асабліва прашу ўсіх тых, хто будзе галасаваць у Сенаце.

***— Чаму СЛД у сваёй большасці галасаваў супроць навелізацыі?***

— На маю думку, не было поўнай інфармацыі ў клубе наконт таго, наколькі важная гэта заява. Гэты закон быў прыняты ў блоку законаў, як гэта акрэсліў міністр Лешак Кубіцкі, звязаных з канкардатам.

Сардэчна дзякую рэдакцыі „Нівы" за тое, што зацікавілася тэмай, так блізкай майму сэрцу.

**Пасол Станіслаў Малішэўскі галасаваў „супроць":**

***— Чаму Вы галасавалі супроць навелізацыі закона, прынятага 4 ліпеня 1991 года?***

— Нашы паслы прынамсі некалькі разоў выступалі з заявай аб увядзенні у парадак працы Сейма дыскусіі на тэму Распараджэння Рады Міністраў яшчэ пры Ракоўскім, рэгулюючага справы вяртання каталіцкай маёмасці.

Мне здаецца, што яно некарыснае для скарбу дзяржавы, паколькі не акрэслівае часовай границы, ад якой можна дамагацца звароту маёмасці. У сувязі з гэтым даходзіць да абсурдных спраў: звяртаецца Каталіцкаму касцёлу маёмасць, якая належала яму 400 гадоў, звяртаюцца будынкі, якія пасля вайны былі цалкам разбураныя і адбудаваліся коштам грамадскасці.

Калі б да гэтага працэсу зваротаў мела ўвайсці таксама Праваслаўная царква, то гэта толькі пашырыла б працэс забірання будынкаў ад школ, прадшколляў, розных культурных пляцовак, як гэта мае месца ў даны момант з Каталіцкім касцёлам.

Лічу, што Сейм павінен прыняць закон — аднолькавы для ўсіх касцёлаў і веравызнанняў — у якім акрэсліцца час, ад якога маёмасць звяртаецца, а зварот мае быць выніком рашэння суда, а не нейкага чыноўніка. У 14-15 стагоддзях тры чвэрці Кракава належала Каталіцкаму касцёлу. Ці сёння трэба ўсё аддаць? У Торуні вунь амаль палова горада перададзена касцёлу.

Лічу, што Праваслаўнай царкве дзеецца крыўда, паколькі шмат храмаў забрана ў яе для Каталіцкага і Уніяцкага касцёлаў. Але зварот павінен адбыцца праз суд.

Таму я галасаваў супроць. Не буду скрываць, што дзякуючы нам (і мне таксама) Праваслаўнай царкве прызнаны поўныя правы на Супрасльскі манастыр.

***— Ці такая „цвёрдая" пастава паслоў Сейма, у большасці галасуючых супроць навелізацыі закона, можа нешта даць Праваслаўнай царкве?***

— Царкве гэта не перашкаджае дабівацца свайго на судовай дарозе. Заўсёды яна можа адсудзіць сваю маёмасць.

***— Іншыя касцёлы не мусілі судзіцца, а ад праваслаўных гэта вымагаецца?***

— Сапраўды, зручнейшая была б простая дарога. Аднак лічу, што справа павінна нармалізавацца на падставе юрыдычнага акту.

У справе Каталіцкага касцёла мы мелі такі ж погляд, але наша заява не прайшла ў Сейме. Мы прапанавалі дыскусію наконт звароту маёмасці Каталіцкаму касцёлу, які адбываўся бяспраўным шляхам.

Я галасаваў так, як і большасць паслоў з нашага клуба. Аднак лічу, што царква павінна свае храмы атрымаць назад.

**Гутарыла Ада Чачуга**

# Дом на буі

**Адкуль памяць сягае, тут было выраблёнае поле. Вядома, якое яно між лясамі. Але лугі тут, у ваколіцах Сакалды, добрыя. Прыгожа — пагоркі, далінкі. А дом Хомчыкаў стаіць на буі, на адкрытым месцы, дзе вятры ходзяць як хочуць, з усяго свету.**

Юльян Хомчык, 1915 года нараджэння, і нікуды згэтуль не выбіраўся б, каб лёс не кідаў. Нарадзіўся, праўда, у недалёкім Суражкове, ды там зусім выпадкова. Але гісторыя паганяла яго крыху па свеце, прымусіла змераць шмат дарог, пуцей, чужых загонаў. Даводзілася ноччу ў хаце не начаваць, хоць дом быў як кінуць вокам. І нe толькі яго лёс так спазнаў. Так узяў за скабы, халера. Цяпер вось добра жылося б тут, але вёска амаль пустая. Жывем і дажываем толькі, кажуць Юльян і Ліда. Успаміны... Находзяць яны хвалямі, разам са слязьмі. Не апішаш усяго ў кніжцы. Хіба што пару момантаў з жыцця кінеш на стронку...

**У 1939 годзе**

як пайшоў у армію, з першай мабілізацыі, успаміае Юльян, 28 жніўня, у 3 полк цяжкай артылерыі, то вяртаўся пешшшу аж з Уладзіміра. Немцам трапіў у рукі, рускім. У парваным адзенні, у лыжных ботах, дзіравым плашчы. Ішоў на Крынкі. Саветам у рукі трапіў ужо на Падляшшы. Цудам нейкі маёр высвабадзіў, шапнуў палонным на вуліцы: „Уцякайце, я страляць не буду!"

Дом паставіў яшчэ ў 1939 годзе. Ажаніўся. Ды якое жыццё ў вайну, дадае Ліда. У 1944 годзе вёска згарэла, як немец адступаў.

Там вось немцы акапаліся, а там давалі саветы, а ўвесь агонь на вёску! 22 ліпеня 1944 года тут вяліка бітва была, стагі на лугах гарэлі. Немцы пазабіралі былі свіней, авечак, кароў. Узрывалі ўсё, што маглі. Вось табе жыві.

Мы то мелі жыццё

**тут пад лесам,**

уздыхае стары! Не ведаеш, ці заўтра ўстанеш. Хадзілі партызаны. „Давай есці." Ды ноччу не пазнаеш, хто пытаецца па руску. А калі то пераапрануты ўласавец? „Дай хлеба кавалак", а на ранак цябе ўжо няма. „Сам бяры, калі знойдзеш". Мы за працу ў лесе даставалі цукар, алей. Не, гэта поснае масла, кажа партызан. Сам браць не хоча. А кожны жыць жа хоча. Быў тут у ваколіцы такі І-скі, ляснічы (яго жонка, яшчэ жыве ў Супраслі), што служыў „і нашым і вашым", а найбольш сабе. Лавіў, выдаваў ён партызанаў. А мы ў лесе працавалі, а таксама і самагонку гналі. Пасля 21 нельга было хадзіць. Занёс я што трэба ў лес, вяртаўся. Зачапіў мяне І-скі ля Падсакалды. „Ты, бандыт! Кажы, куды вадзіў партызанаў! Ну, жывы не выйдзеш!" Чаму я тады, дурань, не ўцякаў, думаю: кропнулі б мяне без мукі! А І-скі накінуў мне на шыю пастронак, тузане, падцягне, мае ногі адарвуцца ад зямлі, то ён ізноў апусціць: „Кажы, дзе партызаны!" Завёў мяне ў Сакалду, а там ужо больш такіх як я. Павялі нас на Копную Гару, далі гадзіну. „Як не скажаце, то вас усіх пастраляем, а вёску спалім!" Бралі кожнага на допыты. А мне: „Кажы, бо праз цябе колькі нявінных людзей згіне!" Я праз слёзы: „Пан камендант, тут мае суседзі, браты, знаёмыя, хай я згіну адзін!.. Забівайце. Але я сапраўды нічога не ведаю. Я просты вазак". — „Ну, добра, на гэты раз цябе адпушчу, але калі што будзе, ты першы дастанеш кульку". Гэта было ў сорак другім. Але пагібель не мінула нашых людзей. Тое даты не забуду ніколі:

**Лазні. 22 кастрычніка 1943 г.**

у панядзелак, акружылі вёску, чыталі са спіска і бралі. З Лазняў пяць сем'яў. З Сакалды, Варонавіч. 56 чалавек. Жанчын, дзяцей таксама. Жывых яшчэ паўкідалі ў яму, навалілі друком, засыпалі. Людзі казалі, што зямля ўверх падымалася. Майго брата Уладзіслава ў той час дома не было. А жонку і двое дзетак, дзяўчынцы 12 гадоў, хлопчыку 8 месяцаў, забралі. „Дзе мая сям'я, там і я, " — закрычаў брат, як вярнуўся. Звалілі яго на мастку, пад Копнай Гарой. Ён ішоў, але як труп быў, бо смерці родных не перажыў бы. Сорак гадоў яму было...

А таго І-скага немцы забілі, ён выстаўляў быў ім партызанаў, выскачыў з лубіну, фашысты па ім далі чаргу, не пазналі. А быў яшчэ такі немец, Дрыдэль называўся. Мы садзілі лес каля Лазняў. О, ак ён катаваў людзей! Такую натуру меў, што вайна дала яму магчымасць выказацца сваім садызмам. Партызаны цікавалі за ім здаўна. Прыехаў тады ў лес на белым кані, гаёвы сказаў яму, што партызаны яго шукаюць. Каня прывязаў, ідзе, рыхтуецца зноў даць сабе волю. Усе яго баяліся, бо то быў чысты д'ябал. Ну, і дастаў ад партызанаў. А за аднаго ж немца на двух сотнях нашых помста. А якраз перад гэтым да Дрыдэля прыехала жонка. Яна напісала, што помсты не жадае. „Няхай мой адзін сын будзе сіратою" сказала, і вярнулася ў Нямеччыну.

У партызанцы былі розныя. І рускія, і жыды, і іншыя. Іх трэба ж было накарміць. Бралі бульбу, адзенне, курэй... Бралі ўсё на фуру, везлі ў схованкі. Коней, праўда, і фуры адсылалі.

**А ў 1946 г.**

і яшчэ ў 1947 годзе зноў „партызаны" хадзілі. Звычайныя рабаўнікі, хоць падпіраліся АК. Забіралі нават жаночае адзенне, у Ліды срэбны ланцужок, а нават ножнічкі для гафтавання ўкралі. І яшчэ заплацілі. А гэта свае людзі былі. Свае сабакі набрахалі, што я ў 1939 годзе, як салдаты вярталіся, хадзіў і забіраў у іх мундзіры ды ружжо! А я ж тады сам на вайне быў!

Ну, прыйшлі, акружылі дом. Увайшлі ў хату пару чалавек, загадалі для дванццаць рыхтаваць вячэру. Я пайшоў па яйкі, назбіраў па гнёздах. Кажу, матка, рыхтуй яечню, карміць будзем людзей. А сам пайшоў па дровы. Іду, але бачу, справа невясёлая: вядуць мяне ўжо пад аўтаматам. Наеліся. „Давай мундзіры і карабіны!" Я ім кажу, што я ў трыццаць дзевятым вярнуўся сам лата на лаце, у тым, чым Буг пераплыў. „My przyszli ciebie do jamy położyć za to, co ty zrobił!" Вядома, нічога не знайшлі, а пазабіралі ўсё, што ім спатрэбілася. У плед загарнулі адзенне, бялізну нават саматканую, кужэльную, жаночае, нават пажарніцкі пояс, звязалі. Адзін панёс плед на двор, а двое кінулі мяне на лаву, сталі з двух бакоў і давай мяне лупіць сукаватымі палкамі, як цапамі! „Na sucho się nie obejdzie!"

Я і сёння ведаю, хто гэта тады быў. І што здарылася з некаторымі. Адзін пасля ў міліцыі працаваў. Якіясьці вывелі яго перад блёк у Беластоку, і так далі, што праз дзень у шпіталі кончыўся. А другога дачка павесілася. Кожны мае свой крыж...

**Жыць цяпер**

можна было б, калі б здароўе. Было каму перадаць зямлю. Але сынава жонка не хоча жыць у вёсцы, і ён так на два дамы жыве, у Грабаўцы і ў Сакалдзе. „Горка есць, ды жалка кідаць." Гадавалі мы раней усяго больш. Я, малодшы, на зіму ездзіў на Мазуры, будаваў, цягаў драўніну з возера ў тартак. Вясною вяртаўся ў Сакалду, гаспадарыў. Зямлі тут у нас не бракуе. Але каму тая зямля!

**Міра Лукша**

# Шматгалосы царкоўны звон

Над уваходам у царкву, а часам побач храма знаходзіцца званіца — вежа з падвешанымі ў ёй званамі. Гукі званоў заклікаюць вернікаў на багаслужбу, адзначаюць паасобныя яе часткі, выказваюць радасць і сум, напамінаюць аб вышнім нябесным спакоі. У мінулым званы адыгрывалі вялікую грамадска-бытавую ролю, выконваючы сігнальна-інфармацыйную функцыю: прызывалі народ на ўсеагульны сход, абвяшчалі аб небяспецы, перасцерагалі перад стыхійнымі бедствамі (пажар, паводка, вайна), заклікалі абараняць айчыну, віталі вяртаючыхся з фронту салдат, дапамагалі падарожнікам арыентавацца ў непагадзь.



*Арлянскія званары — Міхал Лемеш і Уладзімір Пасечнік.* Фота М. Мінцэвіча

У Міхайлаўскай царкве ў Орлі знаходзіцца пяць званоў — два вялікія і тры малыя. Цяперашнія званы былі адліты старанне настаяцеля а. прат. Аляксандра Такарэўскага за кошт ахвяраваннй прыхаджан у пачатку 80-х гадоў. Ранейшыя званы, якія ў 30-х гадах прыдбаў а. Уладзімір Вішнеўскі, палопаліся: адзін зараз стаіць у званіцы, а самы вялікі — красуецца на бетонным пастаменце побач яе. Старажылы ўспамінаюць, што яшчэ раней былі тут такія гучныя званы, што чуваць іх было ў радыусе дзесяці кіламетраў, а нават у Бельску і Дубічах-Царкоўных. Незвычайная гучнасць была вынікам высокай прымесі срэбра ў медным сплаве. У могільнікавай царкве св.св. Кірылы і Мяфодзія ўвогуле няма звана, а толькі „рэльса" — кавалак чыгуначнай рэйкі. У народзе ходзіць чутка, што перад выездам у бежанства ў 1915 годзе царкоўны звон закапалі ў зямлю дзесьці каля царквы. Пазнейшыя пошукі аказаліся безвыніковымі.

У Орлі званаром з'яўляецца 68-гадовы **Уладзімір ПАСЕЧНІК**, які жыве побач царквы. А вось што расказаў ён аб царкоўных званах:

— Звон прызывае вернікаў на багаслужбу і паведамляе непрысутным у храме аб пачатку паасобных частак багаслужбы. Мірны звон — спакойныя ўдары ў самы вялікі звон — прызывае народ у царкву. Падчас набажэнства прымяняюцца ўсе званы. Вылучаецца некалькі спосабаў звону: трызвон — удар ва ўсе званы з перапынкам па тры разы; двузвон — удар ва ўсе званы па два разы; перазвон — удар па чарзе ў кожны звон, пачынаючы ад вялікага да найменшага: перабор — далікатныя ўдары ад найменшага да самага вялікага, завершаныя ўдарам ва ўсе званы разам. Кожны від звону мае сваё значэнне і прымяняецца ў адпаведных момантах багаслужбы.

Звон называюць „прамаўляючымі вуснамі", а падвешаны ўсярэдзіне ўдарнік — „языком". Напамінае ён аб сённяшнім дні і аб вечнасці, калі „часу ўжо не будзе" (Адкр., 10: 6). Сам звон напамінае нам словы Усемагутнага Бога: „Я паставіў старажаў, якія не будуць змаўкаць ні днём, ні ноччу. О, вы, напамінаючыя аб Госпадзе! не змаўкайце..." (Ісаія, 62: 6).

**Міхал Мінцэвіч**

# Драўляныя цэрквы Беласточчыны

29 чэрвеня г.г. у выставачнай зале Белавежскага асяродка культуры ў Белавежы адкрылася выстаўка „Драўляныя цэрквы Беласточчыны". Яе аўтарамі з'яўляецца сужонства Эва Мароз-Кэчынская і Анджэй Кэчынскі. Сп. Эва — антраполаг культуры і этнолаг па прафесіі — працуе ў БАКу, а сп. Анджэй — ляснік і вучоны — у Белавежскім нацыянальным парку.

На выстаўцы паказваецца 30 чорна-белых здымкаў вялікіх памераў, на якіх красуюцца цэрквы: прыхадскія і філіяльныя (Мастаўляны, Плёскі, Козлікі, Нарва, Пасынкі, Новае Беразова, Бельск-Падляшскі, Шчыты-Дзенцялова, Орля, Стары Корнін, Дубічы-Царкоўныя, Гродзіск, Кляшчэлі, Журобічы, Рагачы, Зубачы, Катэрка), могільнікавыя (Рыбалы, Курашава, Чыжы, Стрыкі, Парцава, Белавежа, Чорна-Вялікая, Сабятына, Чаромха, Рагаўка, Мельнік), пабудаваныя над цудадзейнымі крынічкамі (Крынічка ў Белавежскай пушчы, Градалі). Кожны здымак мае надпіс, які інфармуе пра месца знаходжання царквы, яе патрона, характар, год пабудовы і важнейшыя рамонты. Дзе-нідзе ў надпісах сустрэнем нейкія арыгінальныя цікавінкі пра храм. На далучаных да асноўных інфармацый планах паказваецца, дзе кожная царква знаходзіцца.

Паміж рэкамендаванымі здымкамі размешчаны адбіткі інфармацый аб усходніх цэрквах. Польскай аўтакефальнай праваслаўнай царкве, гісторыі падзелу на заходнюю і ўсходнюю цэрквы, сімволіцы царкоўнай архітэктуры і г.д. Прыводзіцца таксама такое, вось, выказванне а. Сяргея Булгакава, своеасаблівы эпіграф цэлай выстаўкі: „Царква — гэта лесвіца паміж небам і зямлёю, па якой Бог сыходзіць на зямлю, а людзі ўзыходзяць на неба (...). Прыйдзі і глядзі, бо ніхто не зразумее Царкву інакш як толькі праз вопыт, ласку, удзельніцтва ў яе жыцці".

Здымкі на выстаўцы паказваюць старадаўнія храмы. Найстарэйшы з іх знаходзіцца ў Сабятыне (каля 1672 г.). Апошнія з XVIII і XIX стагоддзяў. Выключэннем тут з'яўляецца адзіны адносна новы храм — з 1946 г. у Дубічах-Царкоўных.

— Пры падборцы здымкаў на выстаўку, — гаворыць сп. Эва Мароз-Кэчынская, — мы кіраваліся ўласнымі схільнасцямі, сентыментамі. Здымкаў з цэрквамі маем намнога больш. Гэта плён нашых многамесячных паездак па ўсёй Беласточчыне. Думаем нават зрабіць нешта накшталт каталога праваслаўных храмаў на нашай, усходняй тэрыторыі, але дзеля гэтай мэты нам патрэбна фінансавая дапамога. У гэтай справе мы звернемся да Ваяводскага рэстаўратара помнікаў у Беластоку. Вяртаючыся да выстаўкі, мы яе зрабілі за ўласныя сродкі. БАК нам дапамог, купляючы зашклёныя рамкі.

Згаданая выстаўка будзе працягвацца да канца верасня г.г. Варта яе паглядзець. Кантакт з камісаршай выстаўкі, сп. Эвай, непасрэдна ў БАКу або па тэлефоне 12—460.

**Пётр Байко**

**Васіль Сакоўскі**

# З мінулага маёй сям'і, вёскі і мясцовасці

*(працяг; пачатак у 18 н-ры за 1996 год)*

Чаму майго бацьку выкінулі з калгаса? Канешне ж не таму, што зрабіў нейкае злачынства ці пазайздросцілі яму добрай калгаснай жытухі. А таму, што мы, ягоныя дзеці, як адзіныя з цэлай вёскі тады, пачалі вучыцца ў сярэдняй школе. Сярэдняя ж адукацыя ў той час давала велізарныя магчымасці стаць паніскам. А гэта ўжо не ўсім падабалася ў вёсцы. Вельмі не падабалася гэта і некаторым калгаснікам. (Калгас наш гэта нейкіх дванаццаць сваяцкіх сем'яў.) Вось і лічылі, што калі толькі выкінуць бацьку з калгаса, адразу выкінуць і ягоных дзяцей са школы. Такія гэта былі часы і такія панавалі тады парадкі. Выкінуць жа з калгаса было тады вельмі проста — адбывалася шляхам звычайнага галасавання — хто за? І ніякія іншыя рацыянальныя аргументы не браліся пад увагу.

Адразу пасля выключэння, дэлегацыя нашых шаноўных калгаснікаў, старшыня „со товарищи", з'явілася ў дырэктара маёй школы — Яраслава Васільевіча Кастыцэвіча з патрабаваннем выкінуць мяне, кулацкае насенне, са школы. Яраслаў Васільевіч быў разумным і культурным чалавекам, але моцна не любіў тых, якія стараліся шкодзіць іншым нашым людзям. Ён прыняў нашу шаноўную калгасную дэлегацыю холадна, паведамляючы іх, што можа выключыць са школы толькі тады, калі атрымае ад адпаведных улад адпаведны дакумент. Незадаволеная дэлегацыя падалася ў камітэт партыі, але і там такога дакумента не атрымала, бо наступалі ўжо новыя часы — палітычная адліга сярэдзіны пяцідзесятых гадоў.

Але гэта яшчэ не канец клопатаў з маім паходжаннем.

Будучы вучнем адзінаццатага, матуральнага тады, класа і настаўнікі нашы, і дырэктар, і канешне кожны з нас, абітурыентаў, ставіў перад сабой пытанне: што далей?! Значыць, куды пасля матуры падацца, якую выбраць школу, прафесію. А былі гэта нялёгкія пытанні.

Не ведаю чаму, але мне пачало тады здавацца, што я вельмі люблю мора, якога, дарэчы, я тады яшчэ ні разу не бачыў. Яшчэ было б лепей — далей разважала мая маладая гарачая галава — аглядаць нашае блакітнае мора і слухаць рамантычны шум яго пеністых хваль, прыадзеўшыся ў форму марскога ваеннага афіцэра з бліскучым корцікам пры баку. Вось дзе была б раскоша і прыгажосць. А ўжо дзеўкі то і вачэй не маглі б ад мяне адарваць і, канешне ж, нічагуткі не адмовілі б такому кавалеру — далей аптымістычна разважаў я. Значыць, так і быць — поўнай парай трэба падавацца ў школу ваеннага марфлоту.

Лёгка сказаць „падавацца", а на самай справе была гэта доўгая і складаная працэдура. Распачыналася яна далёка перад матуральнымі экзаменамі афармленнем розных дакументаў: заяў, анкет, справак, характарыстык, біяграфіі, фатаграфіі... Далей наступала яшчэ горшае — лекарская камісія. Кандыдатам у ваенна-марское вучылішча была яна моцна складаная і суровая. Дакладна абмацвалі і абшчупвалі чалавека, як нейкую клячу. Заглядалі ў зубы і розныя іншыя закамаркі цела і душы. Найгоршае аднак было тое, што перад камісіяй, сярод якой былі і жанчыны, трэба было паяўляцца галышом, а я быў вельмі сарамлівым вясковым хлопцам і проста згараў ад сораму. Мусіла быць вялізнае хаценне стаць ваенна-марскім афіцэрам, калі дабравольна згадзіўся я на такое. Праўду кажучы, што хаценне горш няволі.

Удала прыйшоў я і гэты, і наступны этап — экзамены. Цяпер ужо даволі выразна пачаў чуць я пах і бачыць прыгожы ваенна-марскі мундзірчык з корцікам на сабе. Але, на жаль, а можа і на шчасце, на гэтым і закончылася мая ваенна-марская прыгода.

Аказваецца, што тых інфармацый, якія былі пададзены ў нашых заявах, анкетах, розных спраўках і характарыстыках, даных нам школамі і іншымі ведамствамі, было яшчэ мала. У тых кандыдатаў, якія пераможна прайшлі ўсе гэтыя этапы, пачалі высвятляць іх палітычную добранадзейнасць. Па гэтай прычыне паявіліся і ў маёй вёсцы даверaныя службовыя асобы і даведаліся там страшных рэчаў аба мне — бацькі мае маюць многа зямлі і былі выкінуты з калгаса. І гэтага хапіла, каб заявіць мне катэгарычнае — „не!"

Калі я здаў матуральныя экзамены і атрымаў атэстат сталасці, дырэктар параіў мне шукаць сабе вышэйшай школы на далейшую навуку дзесьці ў заходніх ваяводствах. Я паслухаўся яго і злажыў дакументы ў найбольш непакорны тады горад Познань, дзе здаўшы ўступныя экзамены, стаў студэнтам. А быў гэта 1956 год. І сапраўды, там у гэтым сэнсе быў зусім іншы свет...

Гэта быў ужо другі (і не апошні) выпадак, калі Яраслаў Васільевіч Кастыцэвіч дапамог мне. Так дапамагаў ён і іншым сваім вучням і іншым нашым людзям патрабуючым дапамогі. Гэта быў тыповы прадстаўнік старой, яшчэ царскай, інтэлігенцыі і высакародны чалавек.

*(працяг будзе)*

# У Падбеллі на прыпынку

На чыгуначным прыпынку ў Падбеллі стаіць мураваны будынак. У ім змяшчаецца чакальня для пасажыраў, білетная каса і жылая кватэра.

Гэтым апошнім памяшканнем даўней карысталіся працаўнікі дзяржаўнай чыгункі, якія прадавалі тут білеты. Апошнім кватарантам быў Янка Тамчук. Паколькі ён перайшоў жыць да бацькоў у Дубяжын, кватэра пустуе. Цяжка мне сказаць па якой прычыне: ці няма ахвотных у Падбеллі, ці чыгуначная адміністрацыя лічыць выгадней нікога тут не пасяляць, каб не мець лішніх клопатаў з кватарантамі і рамонтамі будынка.

На маю думку, гэта не гуманітарна трымаць свабодную кватэру ў час, калі людзі даху над галавой не маюць.

Глянем на справу з іншага боку. Калі б нехта жыў на прыпынку, пастаянна глядзеў бы, што тут робіцца. А так, жалезныя балясы на пероне пачалі гніць (ужо амаль з палавіны перона забралі). І ніхто аб гэтым не клапоціцца, нікому галава не баліць.

Цяперашні касір не лічыцца штатным працаўніком ПКП, а толькі „агенцыйным" работнікам. Ён выходзіць да цягніка, каб прадаць падарожным білеты, і вяртаецца дамоў. Усё застаецца без дагляду. А шкада!

Нядаўна чакальню на прыпынку ў Падбеллі памалявалі. Усё выглядае акуратна. Цікава, на як доўга? **(ус)**

# Як з яйка, так і да канца

Нездарма ў народзе так гавораць: як з яйка...

Было нас пяцёра. Я змалку бачыла, што бацька маму ненавідзіць. Часта біў яе, піў. Да работы не вельмі рваўся.

Мама памерла ад сухот у свае сорак пяць. Не мінула і дваццаці пяці дзён, як бацька нас пакінуў і пайшоў жыць да свае каханкі ў мястэчка. Нас не наведваў. Найстарэйшая сястра зараз пайшла за ўдаўца, на трое дзяцей. Швагер не хацеў нас бачыць. Казаў, што яму ўсю гаспадарку прамо. Дзве сястры выбраліся „на Прусы" і рэдка да нас прыязджалі. Калі мне споўнілася пятнаццаць гадоў, брат паехаў на Шлёнск. Асталася я адна-аднюсенька. Тры гады так мучылася. У Прусы ехаць не хацела. Памагалі мне крыху дзядзькі, маміны браты. Цяжка мне было. За дапамогу трэба ж было адрабляць.

Людзі пачалі мне сватаць кавалераў. Спадабаўся мне Іван. Сасваталі нас вясной, а на восень зрабілі вяселле. Іван добры быў чалавек, працавіты. Найважнейшае, што дбаў пра гаспадарку, не сварыўся, у кілішак не заглядваў. Ніколі руку не падняў ні на мяне, ні на дзяцей.

Мелі мы дзяцей чацвёра — двух сыноў і дзве дачкі. Усе добра вучыліся. На адукацыю мы не шкадавалі грошай. „Няхай ім будзе лягчэй жыць," — паўтараў Іван.

Дзеці вывучыліся і раз'ехаліся па гарадах. Жывуць далёка, — сыны ў Варшаве, адна дачка ў Шчэціне, другая аж у Вроцлаве. Рэдка прыязджаюць. Я таксама не вельмі магу да іх паехаць. Вельмі ж моцна баляць мне рукі і ногі.

Год мінуў як памёр мой Іван. Сумна мне і цяжка вельмі без яго жыць...

Божа мой! Жыла адна змоладу тры гады, а цяпер адзінокай давялося і на старасць...

**Запісала АЎРОРА**

# Шчасце ў няшчасці

У пачатках ліпеня паехаў я на рынак у Бельск-Падляшскі. Там сустрэў я пенсіянера Сцяпана К. і знаёмага агародніка з Маліннікаў.

Пакуль мы з гэтым апошнім абмяняліся навінамі, каля Сцяпана К. сабралася кучка жанчын. Адна з іх аб нечым голасна расказвала. Незадоўга далучыліся да іх іншыя разявакі. Падышоў і я.

— Бачыце, што робіцца, — кажа Сцяпан К. — жанчыну абакралі. Партфель брытвай парэзалі, кашалёк выцягнулі...

Пакрыўджанай аказалася жанчына з Залешан. Прыехала яна на кірмаш, каб нешта купіць дахаты. Калі спатрэбіліся ёй грошы, сунула руку за кашалёчкам у партфель. Тады і ўгледзіла пакражу.

— Пайшла я да знаёмай, каб пазычыць грошы на ПКС, — расказвала далей жанчына. — Узяла ў яе 5 зл., і іду ў напрамку станцыі. Калі я глянула на вітрыну адной з крамаў, убачыла высокую, тоўстую жанчыну, якая дзіўным позіркам глядзела у мой бок... У той час ехаў паліцэйскі аўтамабіль. Я спыніла яго. Калі паліцэйскі спытаў у чым справа, я рэзка заявіла: мяне на рынку абакралі; не ручаюся, але здаецца, гэта жанчына зараз знаходзіцца ў краме.

У час праверкі сумкі падазронай паліцэйскі знайшоў мой кашалёк. Я, схапіўшы яго, выбегла з крамы не чакаючы далейшага ходу падзей. Была задаволена знаходкай.

Адным словам жанчыну сустрэла шчасце ў няшчасці. **Уладзімір СІДАРУК**

# Новыя вершы

**Барыс Руско**

## Мо знайду

Шырокая вуліца,
уся ў кветках,
колераў каса
апляла
вачэй кругагляд.
У готыцы пахаў
палаюць пачуцці.
Горад на крылах вясны —
з кожнай старонкі кніжкі
ўздых пяшчотны.
Мо знайду ў кавярні
парожняе месца
з відам
у тваю прастору.

## Рэха

Хоць розум гнуткі,
ды на бязлюддзі.
Хоць рукі чыстыя,
ды ўсё з іх валіцца.
Хоць на дарозе,
ды пад заваламі.
Хоць клічаш гучна —
маўчанне вязкае.
Хоць дальнабачна —
з'едлівасць побач.
Стукаеш —
толькі табе чутны гук.
Пераконваеш —
толькі сябе.
Асцерагаеш,
а рэха няма.

**Уладзімір Саўчук**

## Будзь сабою

Дабег ужо дваццаты век
на стадыён праўды
а ты
чалавек з аўтарытэтам
разгарні свае мыслі
ці не памяшалася палова
і чыстае зерне гэтай праўды
калі хочаш пераступіць
парог чыстаты.
Па якой дарозе ішоў
шукаючы шчасця? —
Хто нам падкажа
куды скіраваць вочы
каб бачыць? —
чаго слухаць а калі
адхіліць галаву
калі дзякаваць
за талерку ежы
за споўненую ноч
за нядзельку
без граху.

* * *

Хвароба чапілася дзвярэй
а нам
трэба ад'язджаць
за сваім хлебам.
Дзеткі выраслі
і перараслі наша спадзяванне.
Цешча заглядае ў акно
і выціраe слёзы дажджу
цярпіць душа
прывыкла спяшацца ў родны схоў
не забывайце — скажа
а мы спяшаем поўнач дагнаць
дык яшчэ кусок дарогі
ў нашую будучыню
бывайце здаровы! — адкажам
памахалі рукамі
памаргалі вачамі
і толькі нас
бачылі.

# Парнасік

## Сонца пячэ

Сонца пячэ,
Наш труд не ўцячэ.
Трэба адпачыць
І жыццём даражыць.
Холад — дрэнна!
Чакаем цяпла ўсе мы верна,
Калі прыйдзе жара
І не жніўная пара;
Ніва дапякаецца скора
І калышацца быццам хвалі
на моры.
І плён можа быць не паспяховы,
Як нашы пустыя размовы.
Але хай не збудзецца гэтае
прароцтва.
Марнае наша з Богам знаёмства,
Хаця Ён і так вельмі цярпіць.
Нам трэба свята верыць:
Бог цярпіць, што мы ад Яго
адхіляемся,
Сваёй скупасцю і эгаізмам славімся.
Але Бог нас любіць ад самага
пачатку
І жадае нам шчырага парадку.
І напэўна жніва пройдзе як штогод,
Без асаблівых прыгод.
І будзем мець хлеб і да хлеба;
Жыць усім з любоўю — так трэба!

**Мікалай Панфілюк**

## Жыццё

Жыццё бывае рознае,
Аб гэтым трэба знаць,
Шчаслівае, бурлівае.
Яго трэба шанаваць.
Жывуць лясы, прырода
І шчасце нам даюць.
Тым трэба ганарыцца,
Таму ўсіх вучыць.
Шануйце вы прыроду,
Лясоў не высякаць.
Прастор лугоў шырокі
Нам трэба даглядаць.
Жыццё стане шчаслівым,
Шчасліва будзем жыць,
Калі навучым дзетак
Парадак скрозь рабіць.
Атамы ўсе разбурым,
Што знішчыць хочуць свет.
Знясем заслону межаў,
Каб вольна жыў чалавек.

**Мікалай Лук'янюк**

## Прафесія — селянін

Без свабодных субот і святаў.
Без прэмій і ўзнагарод.
Працуе ад світання да ночы.
І зімой на панадворку працы шмат.
Вясной, летам і восенню ў полі,
Усюды працы яму хапае.
Не паедзе ён на адпачынак,
Няма каму яго заступіць.
Часам гаспадар разбагацее,
А бывае і пусты ў яго кашалёк.
Селяніну нельга нічога баяцца.
Мусіць быць цвёрдым, як камень,
каб выжыць.

**Аўрора**

# ВЕР — НЕ ВЕР

Дарагі Астроне, я ўжо не маладзенькая, а замужняя, сямейная жанчына. А тут бач, што мне прысніласся. Быццам я — паненка, маю выходзіць замуж. Памятаю нават, як выглядаў мой жаніх — хлопец высокі, хударлявы, у бардовым пінжаку. Мы ў зале, дзе мае быць вясельная гасціна. Сталы, на іх талеркі. Але ежы ніякай на іх няма. Я яшчэ вясельна не апранута — няма на мне ні вэлюма, ні шлюбнай сукенкі. Ведаю, што мая шлюбная сукенка блакітнага колеру. Тут і прачнулася.

Што можа абазначаць для мяне, саракагадовай жанчыны, такі сон.

**Агнешка**

Сніцца мне, што я знаходжуся на пахаванні. Не ведаю, хто гэта памёр, але хтосьці чужы. Зараз пасля пахавання памёр і мой муж. Здарылася гэта перад святам памерлых. І вось у гэтае свята мы з сястрой пасхалі на магілу гэтага незнаёмага. Адышлі ўжо ад магілы і я кажу сястры: „Бачыш, як мы зрабілі — да чужога пайшлі, а да мужа — не!" І мы павярнулі ў напрамку магілы мужа. Магіла была прыгожая, дагледжаная, ляжалі кветкі. Пры магіле стаяла яго маці. Але калі мы падышлі, яна пайшла. Потым я глянула на табліцу на крыжы, дзе было напісана імя, прозвішча, дата нараджэння, і кажу: памылку зрабілі ў даце нараджэння, запісалі яго на год маладзейшым. Што мяне чакае?

**Марыя**

Агнешка! Твой сон, на жаль, прадвяшчае нейкую сварку, нягледзячы на твой узрост. Вяселле, калі сніцца, няўхільна прадвяшчае сварку, нягледзячы на тое, што ты яшчэ не была апранута і ў талерках не было ежы.

А твой сон, Марыя, прадвяшчае нешта добрае для цябе. Вы ж былі на могілках, а гэта заўсёды абазначае нейкі спакой, суцяшэнне.

**Астрон**

# Каго праклінаюць вясковыя жанчыны?

Вядома, што вясковыя жанчыны, у якіх ёсць мужыкі, праклінаюць бабак – пенсіянерак, якія круглыя суткі прадаюць гарэлку. А паходзіць яна галоўным чынам ад рускіх, якія намнога танней прадаюць алкаголь чым у нашых крамах. Тыя бабкі-пенсіянеркі не рэгіструюць сваіх крамаў у фінансавых установах і не плацяць падатку дзяржаве, хаця даходы ў іх не вельмі малыя.

У вёсцы К. бабка купляе ў рускіх гарэлку па 9 зл. за паўлітра, а прадае ўжо па 15 зл. так як у краме. Меланія з вёскі М. у рускіх купляе оптам спірт па 23 зл. за літр і разбраляе яго вадою так, што з аднаго літра выходзіць у яе пяць паўлітровак мацатою на 36 градусаў і бярэ за паўлітра 10 зл. У вёсцы О. старэнькая бабуля прадае чысты спірт па 40 зл. за літр. Усе яны маюць больш як 100% чыстага даходу. У вёсцы Т. Палашка сама часта ездзіць за граніцу ў Гародню і адтуль цягне толькі спірт, які прадае па 48 злотаў за літр. Калі яе запытаць чаму яна так дорага бярэ, тады адказвае: „Паедзь ты і прывязі, пабачыш колькі трэба страху перажыць ад мытнікаў, калі яны кантралююць". У вёску С. таксама рускія прывозяць спірт і там старэнькая Варачка размешвае яго з вадою і прадае па 13 зл. за паўлітровую бутэльку.

Такім вось чынам дарабляюць нашы старэнькія бабулі і дапамагаюць сваім дзецям ды ўнукам у гарадах. А да бабуль прыязджаюць яны на легкавых машынах толькі на уік-энды, або прывозяць сваіх дзетак на канікулы ў вёску.

Многія вясковыя жанчыны праклінаюць такіх прадаўшчыц за тое, што яны распіваюць іх мужыкоў і сыноў. Народная прымаўка кажа, што праклёны ніколі дарма не праходзяць. Ужо некаторыя бабкі аб гэтым пераканаліся.

**Мікалай Лук'янюк**

*PS. Імёны і ініцыялы вёсак зменены.*

# Музейны фонд

Грамадскі камітэт пабудовы Музея і асяродка беларускай культуры ў Гайнаўцы праводзіць збор грошай на пабудову музея. Ахвяраванні на пабудову музея (у польскай і замежнай валютах) просім пералічваць на рахунак: **РКО ВР Oddział w Hajnówce, nr konta: 5627-5454-132.**

Жыхары Беларусі могуць уплачваць ахвяраванні на рахунак **141713 у Рэспубліканскім жылсацбанку горада Менска.**

**Спіс чарговых ахвяравальнікаў:**

4 740. Міхал Панфілюк (Нараўка) .......... 50,00 зл.
4 741. Ахвяраванні сабраныя ў скарбонку Музея ў Гайнаўцы .......... 133,05 зл.
4 742. Сцяпан Андрасюк (Гайнаўка) .......... 10,00 зл.
4 743. 61 гарцэрская дружына пры ПШ у Славатычах .......... 20,00 зл.
4 744. Ахвяраванні членаў гуртка сеніёраў пры ГП БГКТ у Беластоку .......... 21,55 зл.

**Дзякуем.**

Наш адрас: Społeczny Komitet Budowy Muzeum i Ośrodka Kultury Białoruskiej, 17-200 Hajnówka, ul. 3 Maja 42, tel. (0-835) 30-16.

# Двухлітарная крыжаванка

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | | 2 | | 3 | | 4 |
| | ■ | 5 | 6 | | ■ | |
| 7 | 8 | ■ | | ■ | 9 | |
| | 10 | | | | | |
| 11 | | ■ | | ■ | 12 | 13 |
| | ■ | 14 | | 15 | ■ | |
| 16 | | | | 17 | | |

**Гарызантальна:** 1. плесці іх, гэта гаварыць абы-што, 3. населены пункт, 5. чалавек, які гаворыць бязглуздзіцу, 7. асноўны змест разважання, 9. ударная частка звона, 10. Ежы, польскі магнат і гетман (1616—67), 11. бейсбольная прылада, 12. паглыбленне ў сцяне, 14. шлях уздоўж лініі фронту, 16. запаленне міндаленападобных залоз, 17. музычны інструмент у выглядзе ражка.

**Вертыкальна:** 1. від спартыўнай барацьбы, 2. цвіце ў ліпені, 3. прыхадская вёска, 4. Алесь, беларускі паэт (1918—83), 6. жыццярадасная жанчына, 8. Скуратаў, галоўны апрычнік у Івана IV, 9. атол у групе Маршалавых астравоў, на якім ЗША праводзілі выпрабаванні ядзернай зброі, 11. самалёт з дзвюма парамі крылаў, размешчанымі адна пад другою, 13. фруктовы ахаладжальны напітак, 14. пашкоджанне тканак, 15 сталіца Бангладэш. **(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

Адказ на крыжаванку з 22 н-ра:

**Гарызантальна:** аджар, Ісламабад, Індыя, раунд, фру, блакада, Фергана, ежа, метал, Морзе, рэфлексія, рукаў.

**Вертыкальна:** джэмпер, Аглая, робур, індыкатар, Джунгарыя, іслам, Дантэ, фас, Уфа, жалейка, Ліфар, масіў.

# Папраўка

Паважаная рэдакцыя „Нівы"! Вы зрабілі вялікую памылку, апрацоўваючы мой артыкул „Пасляконкурсныя ўражанні" („Ніва", н-р 27). Выйшла так, што Славамір Кулік, дубіцкі настаўнік, быццам бы з'яўляецца бацькам Ірэны Кулік, якая родам з Тафілаўцаў, і таксама, як ведаеце, яна прыгожа піша ў „Зорку". Я пісаў, здаецца, дакладна, што бацькам Ірэны Кулік ёсць Пётр Кулік, пастаянны чытач „Нівы" і знакаміты гаспадар. А вы ўсё гэта пераблыталі. Яшчэ раз паўтараю: Ірэна Кулік не з'яўляецца дачкой Славаміра, але Пятра Куліка з Тафілаўцаў.

**Мікалай Панфілюк**

**Ад рэдакцыі:** Шчыра перапрашаем Ірэну і Пятра Кулікаў з Тафілаўцаў, Славаміра Куліка — настаўніка з Дубіч-Царкоўных і аўтара артыкула Мікалая Панфілюка за дапушчаную намі памылку падчас апрацоўкі тэксту.

Ніва

„Niwa", ul. Zamenhofa 27, 15-959 Białystok, skr. poczt. 149, tel./fax 435-022.

Druk: „ORTHDRUK", Białystok, ul. Składowa 9.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Мірановіч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:** Праграмная рада тыднёвіка „Ніва". Старшыня Праграмнай рады: Валянцін Сельвясюк.

**Prenumerata:**

1. Termin wpłat na prenumeratę na IV kwartał 1997 r. upływa 5 września 1997 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały „Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na IV kwartał wynosi 13 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Krajowej Dystrybucji Prasy, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa. Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-16551-2700-1-06.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 1,90 zł, a kwartalnie — 24,70 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika „Niwa", Białystok, ul. Zamenhofa 27, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 11101154-207917-2700-1-65.

# Ці ж гэта не пародыя?

У „Ніве" н-р 6 быў надрукаваны фрагмент верша Яніны Шостак і парадыйная яго версія аўтарства Сяргея Чыгрына. Мы даведаліся, што некаторыя знаёмыя спадарыні Яніны Шостак жарт Чыгрына ўспрынялі як апісанне балю, на якім прысутнічала аўтарка. Інфармуем тады, што на апошняй старонцы „Нівы" друкуем найчасцей сатырычныя матэрыялы, а прытым загаловак, пад якім быў змешчаны жарт Сяргея Чыгрына і называўся „Пароды". Шкада аднак, што на пачуццё гумару беларусаў не мае ўплыву ні час, ні адукацыя, ні адкрыты кантакт са светам.

Спадарыню Шостак перапрашаем за ўсе недаразуменні, якія ўзніклі з прычыны публікацыі пароды Сяргея Чыгрына.

**Рэдакцыя**

# Ніўка




*Мантаж Аляксандра МАКСІМЮКА*

# „Даўціпы" Андрэя Гаўрылюка

Жонка звоніць у шпіталь і пытае лекара пра свайго мужа:
— Як яму мінула ноч?
— Меў вялікую гарачку.
— Трызніў лухту?
— Не больш як заўсёды.

* * *

У рэстаране госць кліча афіцыянта:
— І вы гэта называеце булёнам?!
— Шаноўны спадар! Гэта больш чым булён; гэты булён з маладых куранят. А гаворачы сур'ёзна: гэта вада, у якой варыліся яйкі.

* * *

— Грошы або жыццё! — прыпірае бандыт прахожага позняй ноччу.
— Вядома, грошы. Толькі абабярыце мяне напавер, бо не маю пры сабе ні граша.

* * *

Двух шатландцаў залажыліся, каторы з іх падчас імшы дасць на тацу меншую ахвяру. Калі падышоў касцельны, першы з іх палажыў адзін пені і з гордасцю глянуў на сябра.
— Гэта за нас дваіх, — сказаў касцельнаму другі.

* * *

Бацькі размаўляюць аб сваіх дзецях:
— Калі дома сыны, яны ідуць у войска, — кажа першы.
— А калі дома дочкі, тады войска прыходзіць дадому, — адказвае другі.

* * *

— Што будзе сёння на абед? — пытаюць салдаты дзяжурнага кухара.
— Яшчэ не ведаю.
— Як так можна не ведаць, калі абед ужо праз паўгадзіны!
— Стравам даем назвы толькі пасля заканчэння варкі.

* * *

Адна ўдава захацела пабачыць свайго мужа і з гэтым намерам падалася на спірытычны сеанс, аднак, нягледзячы на намаганні медыума, дух не паявіўся.
— Ой! — прыпомніла сабе жанчына. — Ён жа пры жыцці ніколі не з'яўляўся дадому раней за дзве гадзіны пасля поўначы.

# У навуковую бібліятэку

Загадчык зранку пачаў здымаць з нас стружку:
— Ого! Вось так мы змагаемся за рацыянальнае выкарыстанне рабочага часу. Цэлых сем хвілін збіраліся да мяне! Непарадак, таварышы. Такога больш я не пацярплю. Сурова спытаю за кожную марна патрачаную хвіліну. Да чаго дайшлі... Марыя Іванаўна — наш вельмі паважаны бухгалтар — дазволіла сабе за гадзіну да канца рабочага дня пайсці дадому...
— Не дадому, а ў трэст, Іван Сцяпанавіч, — папраўіла загадчыка Марыя Іванаўна.
— Ах! А я і не ведаў, што трэст перанеслі на Пушкінскую. Я, бядак, думаў, што на Пушкінскай — атэлье мод. Таак. А дзе ўчора ад пятнаццаці да шаснаццаці з палавінай быў Сава Рыгоравіч?
— На складзе, Іван Сцяпанавіч, — падхапіўся з крэсла калькулятар.
— А не ў магазіне, які называецца „Спорттавары"?
— Ды я...
— Сядайце, Сава Рыгоравіч. У нас з вамі яшчэ будзе асобная размова. Своеасаблівы рэкорд з марнатраўства працоўнага часу ўстанавіў пазаўчора Фадзей Пятровіч...
— Я быў на мясакамбінаце. Каго хочаце спытайце.
— Знаю, знаю. Хваліўся мне Кузменка, якога вы сома заарканілі ў Пятровай затоцы.

Зазвінеў тэлефон. Загадчык насунуў бровы, але трубку ўзяў.
— Цішэй вы!.. А-а, гэта ты Лаўрэнцій? Вітаю, сябра, вітаю. Ды вось праводжу нараду. Зараз? А да шасці не пачакаеш? Позна, кажаш? А калі... І Сямён Сямёнавіч будзе? Ну добра. Чакайце.

Паклаўшы трубку, Іван Сцяпанавіч пачаў спешна апранацца.
— Маеце шчасце, што выклікаюць у главк... Паглядзіце мне, каб быў парадак!

Калі за ім зачыніліся дзверы, Сава Рыгоравіч выгукнуў:
— Мне тэрмінова трэба заскочыць у аддзел забеспячэння!
— Вось галава! — схамянулася Марыя Іванаўна. — Мне ж трэба на базу.
— Мне ў „Збытсыравіны"...
— Пабег у бюро тэхкантролю...

Праз некалькі хвілін аддзел апусцеў. Я раскрыў папку і толькі акунуўся ў справы, як затрашчаў тэлефон.
— Ало! Мікола Сямёнавіч? Што там у вас робіцца? — загучаў у трубцы густы бас загадчыка.
— Парадак, Іван Сцяпанавіч. — Сава Рыгоравіч пайшоў у аддзел забеспячэння, Марыя Іванаўна ў цырульню... прабачце, на базу...
— А ў журнале пра гэта адзначылі?
— А як жа, Іван Сцяпанавіч.
— Выходзіць, пайшла на карысць сённяшняя нарада?
— Яшчэ і як пайшла!
— Добра. А чым вы займаецеся, Мікола Сямёнавіч?
— Вось разважаю над зводкай.
— Добра, — паўтарыў загадчык. – Заўжды верыў у вас. А скажыце, Мікола Сямёнавіч, а ці ўмееце вы веславаць?
— Другі разрад маю. А што?
— Тады захапіце з сабой спінінг. Паедзем на Ласёва возера. Там, кажуць, шчупак разгуляўся, трасца яго матары!
— Але ж...
— Зводка пачакае да заўтра. А шчупак... Словам, я пасылаю машыну.
— А ў журнале што запісаць?
— Ну... Прыдумайце што-небудзь. Напішыце, што пайшлі ў навуковую бібліятэку.

**Міканор Дубіцкі**

*Пераклаў з украінскай мовы*
*Валерый Бабей*

# Сардэчныя тайны

Дарагое Сэрцайка! Усё жыццё я марыла аб тым, што буду мець шчаслівую сям'ю. У нашай хаце, хаця ніколі не пераліваласся, усе адчувалі сябе шчаслівымі. І ўсё гэта дзеялася нягледзячы на тое, што бацькі былі рознай веры. Шлюб яны бралі ў царкве і ўсіх дзяцей хрысцілі ў царкве. Сям'я наша вельмі дружная і жыве ў згодзе. Мне нават у галаву не прыходзіла, што іншая вера стане перашкодай на маёй жыццёвай дарозе.

Усе лічылі і лічаць да сёння, што надта пастаўная з мяне дзяўчына. Ад хлопцаў адбою не было. А спадабаўся мне хлопец-католік, ды толькі я пра гэта зусім не думала. Свет засланіла мне каханне да яго. Зрэшты, чаго было думаць наперад?! Вунь брат мой ажаніўся з каталічкай, а яна без слова пайшла ў царкву, і больш таго, перайшла на праваслаўную веру.

Мы з маім хлопцам хадзілі два гады. Здавалася мне заўсёды, што ўсё між намі такое яснае, такое простае і шчырае. Але ўсё гэта так было толькі на вока. Справа праяснілася, калі я зацяжарыла. Пачалі мы гаварыць пра шлюб. Хлопец быў маркотны, ды не таму, што адхацелася яму мяне, а таму, што бацькі паставілі вета.

Яны сказалі: цяжарная? ну дык напэўна пойдзе ў касцёл.

А мае бацькі былі супроць: уся сям'я праваслаўная, няхай бы ж і наша адзіная дачушка засталася разам з намі, ды і дзіця паможам выхаваць, а шантажаваць сябе не дамо!

Ягоныя бацькі не знайшлі іншых слоў на маіх, апрача: фанатыкі! А мне тады падумалася, што хто тады яны, калі сказалі сыну, што не дадуць яму і граша, ды і няхай жыве, дзе хоча, калі хоча жыць з кацапкай?! Вядома, вяселля ніякага не будзе і яны тут ні пры чым. А ведаеш, Сэрцайка, як цяжка сёння маладым уваходзіць у жыццё. Мы абое працавалі, але ледзь зараблялі на жыццё. Мне ўсяго 21 год, а яму 23.

Так мінуў перыяд цяжарнасці і я нарадзіла наша дзіцятка. На жаль, хаця дзіцяці ўжо паўгодзіка, мы жывем у сваіх бацькоў, г.зн. я ў сваіх, а ён — у сваіх. Дзіця цудоўнае, мы надалей кахаемся. Мой хлопец, бо ўсё ж такі не магу яго назваць маім мужам, калі мы не маем шлюбу, не глядзіць на ніякую іншую дзяўчыну і вельмі прывязаны да дзіцяці. Сустракаемся найчасцей у маіх бацькоў, а таксама некуды выходзім. Ён дае мне грошы, бо я цяпер не працую.

Аднак жа думка аб тым, што мы ўсё ж такі не муж і жонка, ды жывем асобна, вярэдзіць маю душу. Яго бацькі не хочуць мець нічога супольнага з маімі бацькамі. Па-рознаму іх пераконвалі: што і так, і сяк, і каб я гэта зрабіла толькі дзеля іх. Я знервавалася раз, ды кажу: „А я што, сароцы з-пад хваста выскачыла, ці што?! Чаму гэта мае бацькі дык «фанатыкі», бо хочуць, каб іх дачка засталася пры сваёй веры, а іх фанатызм акрэсліваецца каханнем сына да бацькоў?! Я сваіх бацькоў таксама кахаю!"

І так жывем мы ў гэтай радасці, што ёсць дзіця і ёсць каханне, але адначасова і ў маразме. Не будуем нічога свайго, жывем як нейкія пастаяльцы, у цеснаце і ў невялікай выгадзе. Нічога не купляем (ды і за што) у хату, адным словам, не маем праблем, якія маюць іншыя сем'і.

Яго бацькі глядзяць на гэта ўсё і мамантамі мне здаецца, што яны нават задаволеныя. Чакай, чакай, маўляў, абрыдне яму хутка такое жыццё, а маладых дзяўчат навокал поўна. Знойдзе неўзабаве сабе іншую — і справа будзе развязана. А ў мяне на сэрца ад такіх думак кладзецца камень. Як яны могуць не жадаць шчасця свайму сыну... Яны ж ведаюць, што мы сустракаемся і кахаем адзін другога, але нічога не робяць, каб нам дапамагчы, а наадварот, кідаюць нам пад ногі калоды. Ці гэтак мае выглядаць бацькоўскае каханне?..

**Кацярына**

Кацярына! Бацькоўскае каханне мае шмат адценняў, а адно з іх — гэта, каб дзіця прадаўжала яго традыцыі, а больш таго, каб было яшчэ лепшае і больш здольнае за іх. Гэта датычыцца і тваіх і яго бацькоў.

Калі твой хлопец дарос да таго, каб быць мужчынам, то павінен узяць з табой цывільны шлюб і нейкім чынам пачаць будаваць сваё гняздо. Не ўсе шчаслівыя сем'і пачыналі ад вялікіх грошай, а можа нават наадварот.

**Сэрцайка**